


## СЛОВА

Слова лечыць і калечыць.
Ёсць адно між розных слоў,
Што ў жыцці нас чалавечыць,
Слова светлае — любоў.

Свет зачэзне і панікне
У адчаі без надзей,
Як яно раптоўна знікне
На зямлі сярод людзей.

Дзе ж ты, ісціна святая?
З глыбіні далёкіх дзён
Слова гэта прарастае,
Як травінка праз бетон.

Перапёлка плача ў жыце,
У траве гудуць чмялі.
Не гнявіце, а любіце
Ўсё жывое на зямлі.

Каб часінай непазбежнай,
Дзе жыцця круты абрыў,
Адказаць было не грэшна:
Што любіў,
Каго любіў?

* * *

Зямля бацькоў!
Зямля маёй надзеі,
Зеленакрылы салаўіны кут...
Так хораша сябе
Не адчуваў нідзе я,
Нідзе так цяжка
Не было, як тут.

Не зведаўшы
Ні шчасця, ні бядоты,
Якія па жыцці мяне вялі,
Я не адчуў бы светлай асалоды
На гэтай непадманлівай зямлі.

Пясчаная, балотная, лясная,
Для продкаў з самай даўняй даўніны
Была часцей ты пеклам, а не раем,
Ды ўсё ж цябе не кінулі яны.

Не пабрылі кудысьці ў свет няблізкі
Ці да чужынцаў нейкіх на паклон.
Хто да цябе прыпісаны з калыскі,
З табою будзе да апошніх дзён.

О Беларусь!
Майго народа сэрца!

Твой гулкі рытм нікому не спыніць.
У вернасці Айчыне не клянецца
Той, хто не можа без цябе пражыць.

Мяне ты і вучыла і лячыла.
Я пра цябе спяваю зноў і зноў,
Мая зеленакрылая Айчына,
Краіна несмяротных курганоў!

## ЛЕНІН У ШУШАНСКІМ

Мароз
Над Шушанскім
Трашчыць.
Заснула ўсё.

Ды шпік не спіць.
Вядуць
Казённыя валёнкі
Яго да хаты.
Профіль тонкі
Там цьмяна ў шыбіне
Бліщчыць.

Ізноў Ульянаў
Нешта піша.
Няўжо супроць
Вяльмож, цара?!
Марозная
Разносіць ціша
Па ўсёй Расіі
Скрып
Пяра.

Да шыбіны прамерзлай
Шпік,
Дыханне тоячы,
Прынік.

І адхінуўся, недарэка,
І да акна прыліп ізноў,
Нібыта ўбачыў профіль веку
Без самаўладдзя і паноў.

«Дык хто ж у ссылцы? —
Думаў ён.—
Ці гэты —
Маладыя Ульянаў,
А можа, сам
Манарх Раманаў,
Што адгароджаны
Мурамі,
Штыкамі,
Турмамі,
Шпікамі
Ад люду беднага
Здавён?

А гэты, ссыльны,—
Між людзей.
Імперыю
З Сібіры бачыць.
Такія могуць перайначыць
І ход жыцця, і ход падзей».

Шпік у парэпаны кажух
Уцягваў, здубянелы, шыю...

Агеньчык
У акне
Не тух
І асвятляў усю Расію.

* * *

Калі ты карыснае
Людзям зрабіў
І сам раструбіў на паўсвету,
Запамятай, колькі б на свеце ні жыў,

Яшчэ невядома,
Чым скончыцца гэта.

Калі ты ў адчаі,
Што знікла любоў,
Згараеш, нібыта камета,
Табе нагадаю, мой дружа, ізноў:
Яшчэ невядома,
Чым скончыцца гэта.

Калі, табе здрадзіўшы,
Скажуць сябры,
Што песня твая ужо спета,
У роспачы да галавы не бяры:
Яшчэ невядома,
Чым скончыцца гэта.

І нават на чорнай,
Апошняй мяжы
Як словы свайго запавету
Паплечнікам верным ты мужна скажы:
— Яшчэ невядома,
Чым скончыцца гэта!

* * *

Няпраўда,
Што на свеце дрэнна жыць,—
Прыходзім жа на свет
Не дзеля смутку,
Не вытанцоўваць
Пад чыюсьці дудку.
Прыходзім,
Каб дабро ў жыцці тварыць.

Хоць, сапраўды,
Жыццё яшчэ — не мёд.
Зло не заўсёды б'е
Прамой наводкай,

Дзе — злоснай плёткай,
Дзе — нахабнай глоткай.
Але жыццё —
Яно заўжды — палёт.

Пад навіссю
Падманаў і пагроз,
Якімі так багаты
Век вятрысты,
У светлым краі
Соснаў і бяроз
Застанься сэрцам
І сумленнем чысты.

На свеце добра жыць,
Калі дабро тварыць,
І гаварыць,
І пецъ на мове праўды,
І не лічыць,
Каму і колькі даў ты,
А вось каму павінен —
Не забыць.

## АПОШНІ КРУГ

*І. П. Мележу*

Цяжка
Чарадзе без важакоў...
На Палессі
Пасярод балота
Развітальны танец
Журавоў
У вячэрні час
Перад адлётам.

Зор далёкіх
Чуючы харал,
Скачуць птушкі

Пад напеў ласкавы.
Не трывожаць
Гэты рытуал
Ні звяры самотныя,
Ні травы.

Зводдаль
Знерухомелы важак,
Прыгадаўшы,
Дзе ж сябры былыя,
Дзюбу ўскінуў.
Назірае, як
Скачуць ваяўніча
Маладыя.

Хай паскачуць
Сярод спелых траў.
Месца хопіць
Кожнаму на ўзлессі.
Хай спазнаюць,
Што і ён спазнаў
У халодных высях
Паднябесся.

Гэта не вясельны
Весні хмель,
Гэта развітальны
Танец горкі...
Жураўлісе
Чысціць жуpавель
Зорамі абвеяныя
Пёркі.

Ён яшчэ
Узніме ўвысь
Касяк.
Покліч кіне
На лугі і пожні.
І не скажа чарадзе
Важак,
Што ў жыцці ён робіць
Круг апошні...

* * *

Ізноўку запахла на ўзлеску
Угрэтай зямлёй і карой...
Туманіў пупышку і трэску
Лагодны вясновы настрой.

А побач шаша вуркатала.
Распырскаўшы дыму сляды,
Ляцелі стварэнні з металу
Удалеч туды і сюды.

Там свет захлынаўся у спешцы,
А ўзлесак ціхутка драмаў.
Апалае лісце на сцежцы
Ледзь-ледзь казытала трава.

Машыны узбоч газавалі
Пад ляскат бясконцы і рык.
І, раптам, сюды з магістралі
Чамусьці звярнуў грузавік.

Саскочыў з высокай кабіны
Яшчэ маладзенькі шафёр.
Пад вербамі, ля лугавіны,
У ціхім здзіўленні замёр.

Павольна наўкол вечарэла.
І пахла зямлёй і карой.
І зорка Венера гарэла,
Дрыготкая, над галавой.

Шафёр да вярбы прытуліўся
На момант,—
Хто скажа — чаго? —
А рух на шашы не спыніўся
І не існаваў для яго.

* * *

Маленькія вёскі лясныя
Між раскарчаваных палян —
Надзейныя сувязныя
Падпольшчыкаў і партызан.
Як хутка і вы пастарэлі!
Вас не амаладжвае час.
Ёсць кемпінгі, базы, матэлі,
Ды неяк нязручна без вас.
Дзе мудры ваш голас не моўкнуў,
Дзе пелі на плоце збаны,—
Крыж-накрыж забітыя вокны
І без дымкоў каміны.
Па святах з цэнтральнай сядзібы
З ранішняй самай зары
Сюды, пад сірочыя ліпы,
Ідуць і ідуць жыхары.
Дзяцей перамен і прагрэсу,
Што гэтак прыцягвае іх
Да хатак здрабнелых і лесу,
Да сцежак бацькоўскіх, былых?
Хоць вёскі маленькія знаюць:
Былога назад не вярнуць,—
Да самага ранку спяваюць,
Да самага ранку гудуць...

## ЗАПАВЕТ

— Рызыкуйце, хлопцы,
Рызыкуйце! —
Перад смерцю
Гаварыў паэт.—
Гінучы,
Усё адно — ратуйце
Ад пакут і здзекаў
Гэты свет.
Век канчаюць
Каля зор арлы,

Мышы паміраюць
У нары...

Зорны золак
За акном гайдаўся.
З сэрцам,
Нібы ў ранах нажавых,
Ён пайшоў.
Ні з кім не развітаўся,
Каб заўсёды
Жыць сярод жывых.

•

## ШЛЯХІ-ДАРОГІ

### 1

Шляхі-дарогі ў засені прысад.
Са мной заўсёды ў радасці і ў горы
Вось гэты беларускі далягляд,
Вось гэтыя зялёныя прасторы.

Паслухайце, як птушак галасы
Вызвоньваюць на досвітку ў дуброве,
Паслухайце, як рэкі і лясы
Спяваюць песні на крынічнай мове.

І калі ёсць на свеце прыгажосць,
Якую людзям выткала прырода,
Яна і ў нашым родным краі ёсць,—
За ўсе трывогі нам узнагарода.

### 2

Шляхі-дарогі, трасы, бальшакі...
Вы на зямлі бацькоў — не павуціна.
Надзейна вы злучылі на вякі
Мой родны край з магутнаю Айчынай.

Грукоча, стогне наш ракетны век.
Апалены гісторыяй і векам,
На грозных пуцявінах чалавек
Усё ж застацца хоча чалавекам.
Садзіць сады і будаваць масты,
Расціць дзяцей і пракладаць дарогі.
Чым непрыступней перавал круты,
Тым большае жаданне перамогі.

3

Гудуць шляхі-дарогі, як званы.
Яны і сёння ўсё смуткуюць з намі
Па тых, што не вярнуліся з вайны,
Забраныя ваеннымі шляхамі.

Ляжаць героі ўзбоч шляхоў-дарог.
Яны ляжаць пад Брэстам і пад Мінскам.
Святлом нязгасным нашых перамог
Над Беларуссю свецяць абеліскі.

На новых рубяжах дабра і зла
Цяпер прызналі людзі ўсе на свеце:
Без іх чырваназорнага святла
Запанавала б цемра на планеце.

4

Шляхі-дарогі роднае зямлі!
Пад мірным небам і пад ясным сонцам
Вы сёння ў Мінск на свята прывялі
Айчыны гераічных абаронцаў.

Ніпто не парушае цішыню,
І над усёй зямлёй знікаюць цені,
Калі яны ля Вечнага агню
Стаяць у нерухомым задуменні.

Мы побач з імі, ўнукі і сыны
Адзіныя у нас шляхі-дарогі,
Да новых перамог вядуць яны
Нас з гістарычнай плошчы Перамогі.

## НАРАЧАНСКІЯ СОСНЫ

Нарачанскія сосны —
Сёстры Максіма Танка,
Ускінулі промні, як вёслы,
У блакіт азёрнага ранка.

Нарачанскія сосны —
Дум партызанскіх сведкі.
І сёння жалобна-узнёсла
Чакаюць гасцей з разведкі.

Крылом сваім ахінаюць
Нарач, нібы калыску.
І зоры да ранку гайдаюць
Нябёсаў і абеліскаў.

Нарачанскія сосны
У згодзе з вадою жывою,
Як вечнай паэзіі кросны,
Не знаюць спачыну-спакою.

Доўга яшчэ ім дзівіцца,
Гледзячы з круч далёка,—
Іх не змяла навальніца,
Не засушыла спёка.

Нарачанскія сосны
Кіруюць у новыя вёсны.
Не адтаптала б карэнне
Ім нашае захапленне.

* * *

Якія хмары ні плылі,
Якая ні пякла спякота,
Але не зніклі на зямлі
Надзея, радасць і пяшчота.

У грукатлівыя часы
І ў ціхія хвіліны зморы

Яны для сэрца, як лясы,
Як рэкі нашы і азёры.

Дзе вабіць кветкамі прасцяг,
Усім зямным вятрам адкрыты,—
Таемнай прагаю жыцця,
Нібы смугой, прастор спавіты.

Надзеяй дыхае прастор.
І ў радасці, нібы лістота,
Пад перазвон далёкіх зор
Спявае нам з табой пяшчота.

Сплываюць згадкі, нібы сон.
Яна цяпер заўсёды з намі,
Пяшчота ўсіх пакутных дзён,
Што мы пражылі з гадамі.

## БЕЛЫ ГОЛУБ

### 1

Белы голуб,
Белы голуб,
Што схіліў самотна галаў?

Адганяюць ад ласункаў
Сытна-шызыя браты.
Дзе ж табе шукаць ратунку
На падворку ў халады?

За чародкаю нясмела
Зводдаль тупаеш услед.
Ці ж твая віна, што белы
Нарадзіўся ты на свет?

Недзе ў зацішку падстрэшша
У маркоце вечароў
Зноў табе прысніцца ежа
І варожасць шызароў.

2

Люты холад.
Стыне цела,—
Што не вылечыць і дню.
Раптам птушка узляцела
Сярод ночы ў вышыню.

У пякучыя прасторы
Ірванула з усіх сіл.
Толькі неба.
Толькі зоры.
Толькі шоргат зябкіх крыл.

Толькі бачылі бярозы
Праз дрымоту-немату,
Як у белай птушкі слёзы
Ледзянелі на ляту...

3

Акрыяў і ён вясною,
Белы голуб, не сакрэт,
І за сытай чарадою
Скача назіркам услед.

Падсілкуецца — і ў неба,
Адагнаны чарадой.
У каго ёсць крылы — трэба
Мацаваць іх вышынёй.

Хто расстаўся з гэтай марай,
Прагне дармавых дароў,—
Будзе той заўжды ахвярай
Тлустых вулічных катоў.

Шызароў вучыць не трэба.
Ім бы — зерня, ім бы — хлеба,
Толькі б шчодры быў прыпол.
А таму глядзяць не ў неба,
А таму глядзяць на дол.

Ім няўцям, чаму галубкі
Дзівака частуюць з дзюбкі.

## ГЛЫБОКАЯ ПЛЫНЬ

*І. П. Шамякіну*

Ці аб высокай долі песняра
У глыбіні ляснога бездарожжа
Вы думалі над кручамі Дняпра,
Над плёсамі разлівістага Сожа?

Дзівосна неба ранішняга сінь
Гайдалася,
Спявала
І звінела...
Дум і пачуццяў велічная плынь
Ніколі ў Вашым сэрцы не мялела.

Напэўна, Вам асенняю парой,
Як жураўлі у вырай адляталі,
Пакінулі шчаслівае пяро,
Каб Вы свой край
Высока апявалі.

Народных дум слуга і валадар,
Да сэрцаў нашых Вы праклалі трасу,
Пясняр,—
Нястомны працаўнік-вясляр
На ўсіх вірах і перакатах часу...

* * *

Ціхутка трапеча на ліпе лісток.
Струменіцца водар мядовы.
І сцелецца ў змрок вечаровы
Кастра саладжавы дымок.

Давай жа, агеньчык, пабудзем адны
З сваёю нявечнаю доляй.
На свеце замнога журбы і маны,
Ды ўсё ж такі радасці болей:

І ў цёплым дыханні вячэрняй зары,
І ў шэпце лясной баравіны,
І ў слове, якое прамовяць сябры
Табе у цяжкія хвіліны.

Трапечуць над вогнішчам зоры і змрок.
І сэрцу з журбой не спярпецца,
Пакуль яшчэ лечыць звычайны дымок
І светлае гэта цяпельца.

* * *

Калі маркотных дум асцё
Пранізвала настрой міжволі,
Не наракаў я на жыццё,
Не праклінаў яго ніколі.

Спакоем зор, гаёў і ніў,
Задзірванелым шляхам вузкім
Я часта сам сябе лячыў
Пад родным небам беларускім.

Туга сплывала ў небыццё,
Знікалі ўсе мае напасці.
Ізноў раскрыльвала жыццё
Пачуцці радасці і шчасця.

Відаць, з нас кожнаму лягчэй,
Хоць мы пра гэта не гаворым,
Ісці з усмешкай да людзей,
А не з уласным нейкім горам.

## ГАЛАСЫ

Усё адметны мае голас:
Травінка, дрэва,
Камень, колас,
Драпежны звер,
Пчала і птах.
Парою плоднай
Нават гады
Свае высыкваюць
Рулады,
Атруту
Тоячы ў вачах.
У вечным хоры галасоў
Лугоў, рачулак і лясоў
Пад грукат грозны,
Рэактыўны
Гучыць прыроды
Голас дзіўны.
Сам-насам з ёю
Мне лягчэй.
І свет мне бачыцца
Ярчэй,
Дзе супярэчнасці і згода,
Дзе чалавек і дзе прырода
Павінны ўжо
Спяваць дуэтам
Дзеля жыцця
На свеце гэтым.

## РЫБАКІ

На снежным возеры чарнеюць рыбакі,
Нібы на свежым ворыве гракі.

Плывуць над возерам маўклівасць і спакой,
Спавітыя марознаю смугой.

І толькі раптам глуха трэсне лёд,
Хаця яшчэ далёка крыгаход.

Прадвесня позвы улавіла вуха,
Ці гэта голас падае прадуха?

Праз пелькі рыба нема:
— Што рабіць? —
Як у ілюмінатары крычыць.

Аднак, паветра робячы глыток,
На восці налятае, на кручок.

Не млейце ў захапленні рыбакі,
Ёсць і на вас нябачныя кручкі.

Ты сябру здрадзіў?
Ад яго — убок?
Ты подласці патрапіў на кручок.

Ты выкрывальнік быў заган і плям,
Што гэтак часта дакучаюць нам,
А сам —
хапуг у шчокі цмок ды цмок,—
Ты сквапнасці патрапіў на кручок.

А ты — ў чужую дзьмеш і дзьмеш трубу,
Адкуль бярэцца толькі тая сіла!
Дык ведай жа, што гэта за губу
Цябе так падхалімства падчапіла.

Ты лез усё вышэй, усё вышэй...
Запамятай жа, ўрэшце, недарэка:
Нічога на зямлі сярод людзей
Няма вышэй, вышэй ад чалавека.

Ты марыш стаць заядлым рыбаком?
Не стань жа сам нажыўкай ці жыўцом!

## ЗЯБЛІК

Нібы з восені забыты яблык,
На галінцы загайдаўся зяблік.

Ціха будзіць дрэва: «Уставай!»
Цёплыя наслаўшы дні і ночы,
Квеценню сады абсыпаў май,
Шкоднікам яна мазоліць вочы.

Зяблік —
Гэта вам не салавей,
Трэлі рассыпаць не налаўчыўся,
Памагаць ён дрэвам навучыўся,
Каб жылі даўжэй і прыгажэй.

І калі засвішча ён здаля
Сарамліва і непрафесійна,—
Запрашае да сябе гасцінна
У адведкі кожная галля.

А пасля, зашыўшыся ў гушчар,
Ён і сам паслухае з ахвотай,
Як чаруе салавей-пясняр
Сад зарэчны песеннай пяшчотай.

* * *

Капяжы,
Капяжы са стрэх.
Верабей —
Кіпцюркі сагрэў.
Ацяжэў набрынялы снег.
Ацяжэлі галіны дрэў.

Нібы першы вясновы гром,
Рэха кінуўшы між бароў,
Абудзіў раку крыгалом,
У гурты пазбіраў звяроў.

Пад птушыны нясмелы ўскрык
Ручаінка з гары паўзе.
Сакавік —
Вясны маладзік —
Праразаецца пакрысе.

Пачынаюцца і ў душы
Весняй радасці
Капяжы.

* * *

Ад спёкі летняй
Дол ачах.
Буслы спачылі
За ракою
На цёплых
Жнівеньскіх стагах
У насцярожаным
Спакоі.

Туман,
Асмужаны ледзь-ледзь,
Плыве
На поплаў і балота...
І трэба
Ногі адагрэць
Перад вялікім
Пералётам.
А мо надыхацца
Ім трэба
Настоем траў
Пад родным небам,
Каб водар гэты
Іх прывёў
З далёкай далечы
Дамоў.

* * *

Над Вязынкаю дождж імжэў
І вербы гнуліся, як хвалі.
Схаваўшыся пад шаты дрэў,
Яна і Ён узбоч стаялі.

Турысты ціўкалі ля іх
На розных еўрапейскіх мовах,
Хто ў джынсах-раструбах тугіх,
Хто ў найзвышмоднейшых абновах.

Гудзеў іншакраінны люд,
Сябе паводзіў, нібы дома.
Чужымі выглядалі тут
Юнак з дзяўчынаю, вядома.

Яны прыехалі здалёк
Сюды, у госці да Купалы,
Але зрабіць тут першы крок
Рашучасці ім не хапала.

Так часам сэрца зашчыміць:
Дарог адолеўшы багата,
Ты ўжо баішся адчыніць
Чамусьці дзверы роднай хаты.

Не бачылі Яна і Ён,
Расчуленыя краявідам,
Як неба вогкі парасон
Рабіўся светлым і блакітным.

І заціхаў турысцкі тлум,
І сонца з хмары выплывала,
Нібы ў святле высокіх дум
Вось-вось тут з'явіцца Купала.



Як знерухомелыя цені,
На сельскіх могілках крыжы.
Я веру ў тайну абнаўлення
Травінкі, дрэва і душы.

Мураш спяшаецца дадому
З цяжкою ношай на спіне.
Тут нават птушкі па-другому
Спяваюць, як здаецца мне.

Тут прыпынілася вячыстасць.
Але чаму тады, скажы,
І даўкі смутак, і ўрачыстасць
Тут нараджаюцца ў душы?

Заб'ецца сэрца, і заные,
І знойдзе свой рытмічны лад,
Злавіўшы продкаў пазыўныя
Між гэтых сцішаных прысад.

Спасцігне шчасце ці няўдача
Мяне у бытнасці зямной,—
Я веру: бацькаў крыж заплача
Як не слязою, то расой...

## КОНЬ БУЛАНЫ

Прыснілася:
Ускрай паляны
Праз светлыя беразнякі
Майго маленства конь буланы
Ляціць са мною да ракі.

Сапе услед табун шалёны —
Зямля дрыжыць ці гром грыміць?
Я перад ім — безабаронны,
Аж сэрца соладка шчыміць.

І мне нікуды не падзецца,
І не паспею войкнуць я,
Калі буланы конь спаткнецца
Або змахне над дол галля.

...Зямля вільнула раптам коса.
Рукамі сцяўшы галаву,
Я не ў далёкія нябёсы —
Лячу ў высокую траву.

І не забудзецца ніколі:
Я добра бачу і цяпер,
Як нада мною —
Коні... коні...
Ляцяць, як праз жывы бар'ер.

Я акрыяў у роднай хаце.
У куце — свечка ледзь трымціць.
І бабка Лёкса кажа маці:
— А гэты — доўга будзе жыць...

Жыццёвым лёсам гартаваны,
Вяслую да наступных дзён.
Навошта ж снішся,
Конь буланы,
І што вяшчуе гэты сон?

## ВЯРТАННЕ

Прыйшоў дамоў
Салдат з вайны.
Спытаў:
— Дзе жонка?
Дзе сыны?
Але суседзі ўсе маўчалі
І толькі жаласна ўздыхалі.

Прайшоўшы цяжкія дарогі,
Спазнаўшы радасць перамогі,

Салдат адчуў, што дома ён
Няшчасцю трапіў у палон.

Трымалі ля яго салдаткі
Дзяцей сваіх за ручаняткі.
І ў кожнай галасіў пагляд:
— А наш?..
Ці вернецца назад?

Што адказаць?
Як супакоіць?
Час не заўсёды раны гоіць.
Салдат прызнацца не пасмеў,
Што ён адзін з сяла ўцалеў.
З яго равеснікаў-сяброў
Ніхто не вернецца дамоў...

Салдат маўчаў.
Салдат глядзеў.
І на вачах усіх сівеў.

## ВЕРНАСЦЬ

Час ношу гадоў нанізвае
На плечы старой бабусі,
Што сорак гадоў выпісвае
«Піянер Беларусі».

Газету чытаў сын Коля —
Магіла ў далёкім полі.

Другі сын чытаў, Ягорка,—
У небе згарэў, як зорка.

Чытаў і трэці, Іван,—
Рана памёр ад ран.

Чыталі яшчэ два ўнукі —
Цяпер дактары навукі.

Не бабчына ў тым віна,
Што засталася адна.

Жыццё такое вялізнае.
Дні доўгія, як вякі.
Бабка газету нанізвае
На дзіцячыя матузкі.

Паштарку пра ўсё распытае:
— Што новага ў вёсцы, жыцці?
Шчаслівая ты, маладая...
Замуж трэба ісці.

А я — да сыноў мяркую.
Хвароба ўжо долу гне.
Вось сваё адвякую —
Ніхто не ўспомніць мяне...

Пярэчыць дзяўчына:
— А ўнукі!
Прыехалі б пагасціць...
І доўга на бабчыны рукі,
Дрыготкія рукі, глядзіць.

## АДНАПАЛЧАНЕ

Сустрэліся франтавікі.
Яны і плакалі і пелі.
І на паўсвету ў дзень такі
Пратэзы гулка іх рыпелі.

Луналі майскія сцягі
Над іхняй доляю і славай.
Адзін
Без левай быў нагі.
Ну, а другі?
Другі — без правай.

Хоць не ў адзін і той жа час
Іх падкасілі кулямёты.

15 Зак. 1241

Памеру аднаго якраз
Франтавікі насілі боты.

Ішлі ў сельмаг франтавікі.
Яны смяяліся і пелі.
І на паўсвету ў дзень такі
Пратэзы гулка іх рыпелі.

Яны скідаліся на двух
І боты новыя куплялі.
І разам рушылі на луг,
Які калісьці штурмавалі...

* * *

Надвячоркавы
Сцішаны лес.
Сэрца б
Звонкую песню запела,
Каб на ўзгорку
Сасна, як пратэз,
Так балюча ў цішы
Не рыпела.

## БАЛАДА ПРА ПЯЦЬ ВАЗОЎ

Пяць вазоў крывавых,
Пяць вазоў
Карнікі спынілі на цвінтары
З трупамі ваяк-рабаўнікоў,
Што не ўнiклі партызанскай кары.

З жудасцю
Глядзелі мы на іх,
На чужынцаў мёртвых і жывых.

На дзірван
Паклалі іх шнурком.
Пад гару сцякала кроў цурком,
І капалі карнікі паныла
Тым, забітым, ля царквы магілы.

Дзеці, чулі мы ў кустах здаля:
Глеба і трашчала і скрыпела,
Нібы наша родная зямля
Забіраць чужынцаў не хацела.

Падганяў магільшчыкаў:
— Шнель, шнель! —
На гадзіннік
Гледзячы пры гэтым,
Танканогі, быццам журавель,
Афіцэр з патухлай цыгарэтай.

Раптам
Ён застыў, нібы сляпы,
Вочы аж заенчылі ў нябогі,
Калі з ям магільных
Чарапы
Пакаціліся яму пад ногі.

З чарапоў
Грудок на ўзгорку рос.
Як адчуўшы гэты здзек і сорам,
Праз акно царкоўнае
Хрыстос
На захопнікаў глядзеў з дакорам.

Чарапы звінелі, як званы,
Продкаў, што спачылі за цвінтарам.
З гнеўнаю усмешкаю яны
Карнікам глядзелі прама ў твары.

Не стрымаць пагляд іх вачаніц!
Аўтамат ускінуў нейкі фрыц,
З ачмурэлым жахам у вачах
Сакануў чаргой па чарапах.

Сяканулі ўслед усе за ім.
Толькі пыл навокал, толькі дым.

Хаты захлынуліся ад слёз,
Прадчуваючы смяротны лёс.

Адгулі падзеі,
Адгулі...
Я стаю тут з думкаю адною:
Хто няпчасце сее на зямлі,
І ў зямлі
Не знойдзе той спакою.

Адзічэў цвінтар.
Царквы няма.
У густых кустах чырваналозу
Часам па начах крычыць сава,
З самае вясны —
Таўкуцца козы.



Мужчына ў парку чытае газету,
Не ўзнімаючы галавы.
Побач на лаўцы цалуе кабету
Другі мужчына, зусім сівы.

Спыніліся юныя мамы з калясхамі,
Пераміргнуліся між сабой:
Увачавідкі ж цешацца ласкамі,
Хто даху не мае над галавой.

А бессаромнікі немаладыя?
Ім бы ўнукаў песціць сваіх!
Падалі з клёнаў лісты залатыя
У промнях асенняга сонца скупых.

З лаўкі падняўся мужчына з газетай,
Свой напатоліўшы інтэлект.
Устаў і другі са шчаслівай кабетай,
З ёй на прыпынак пайшоў, на
праспект.

Дынамікі ў парку пелі ласкава
Пра адзіноту і пра любоў.
Юныя мамы селі на лаву
І загайдалі сваіх крыкуноў.

## АКТАВЫ КАХАННЯ

1

Каханне — найцяжэйшая з пакут.
Мая добраахвотная пакута.
Калі ж ты мне свой вынесеш прысуд?
Нібы падсудны, прагну я прысуду.
У міг апошні здарыцца мо цуд,
І тое, што здавалася атрутай,
Каханне ператворыць у нектар
На ўсё жыццё для вязня гэткіх чар.



Я думаў, больш не прыйдзе да мяне
Каханне з цудадзейнасцямі тымі,
Што юнакоў — пытальнікамі гне,
А пасівелых — робіць маладымі.
Каханне, думаў, вусны мне замкне,
Шлях перайшоўшы з вёдрамі пустымі.
Няма, напэўна, горай пакарання,
Калі не свеціць над табой каханне.



І ты прыйшла, каханая, прыйшла
І асвяціла дні мае цяжкія.
Няпраўда, што на свеце многа зла,
Што правяць светам толькі людзі злыя.
Плыву, плыву насустрач без вясла
Праз хвалі часу жорсткія, крутыя.
Каханне нас праз крыгаход тугі
Злучае, як паводка берагі.



Каханне не разветрыцца, як дым.
Хто закаханы, у жыцці той смелы.
Цікава, ці кахае падхалім,
Ці гэты вось пранырлівец сапселы?
Паспачуваем жа хоць трохі ім,
У мітусні і сквапнасці ўспацелым.
Здавён не маюць сілы у каханні
Ні ўзнагароды, ні чыны, ні званні.



Але не будзь рахманы, як цяля,
Між тых, хто песціць смакатою шлункі.
Няхай твая жыццёвая ралля
Жыццю нясе ўраджайныя дарункі.
Адрозніваць вучуся спакваля
Атрутнага двурушша пацалункі.
Свайго кахання берагу свячэнне —
І гонар чалавечы, і сумленне.



Свяці, кахання чыстая зара!
Свяці — пачуццяў сэрцаў не азмрочвай —
Над доляй плугара і песняра
І над высокай доляю жаночай.
Усіх людзей пара табе, пара,
З'яднаць чароўнай сілаю прарочай.
Бо, сапраўды, на свеце без кахання
Жыцця няма — ёсць толькі існаванне.

2

Агні кахання — вечныя агні.
Яны нікому з нас не слепяць вочы.
Шчаслівым сэнсам напаўняюць дні,
Пяшчотай вабнай скарачаюць ночы.
Загадкава гучыць у цішыні
Гарачы, неспатольны шэпт жаночы.
Бянтэжыцца расчулены юнак,
Упершыню адчуўшы дзіўны смак.



Ёсць у каханні нейкая мяжа.
За гэтай патаемнаю мяжою
Зліваецца ў адно твая душа
З душой каханай, чыстаю душою.
Як ток, між вамі прабяжыць спяріпа,
Каб адарыць вас яркаю іскрою,
Чароўнае адзінства захаплення,
Што абнаўляе свет і пакаленні.



На ўсім — адбітак сонца і вясны.
У закаханых прыгажэюць твары.
Шчаслівы, хто багаты без казны,
Каго не абышлі кахання чары.
Шануйце гэту крохкасць навізны,
Няхай бурчаць няўдачнікі і скнары,
Аматары дакучлівых натацый,
Ахвяры ўсіх уласных імітацый.



Шматбальныя ў каханні ёсць штурмкі,
Страшнейшыя любога землятруса,
Як ад сумненняў збегчы нацянькі
Прыходзіць невыносная спакуса.
Пільнуйце, каб нянавісці вянкі
Каханне не панесла пад прымусам.
Каханне — і свабода і няволя,
Крыніца смутку, радасці і болю.



Каханне — сад. Каб з завязі плады
Нарэшце наліліся спелым сокам,
Змагаюцца галіны праз гады
Са спёкай, маразамі, чарвятокам.
Каб выстаяць пад навісцю бяды
І перадаць жыццё сваім патомкам,
Прашу: аберагайце гэты сад
Ад марнатраўства, зайздрасці і страт.



Агні кахання — вечныя агні.
Без іх — у чалавецтва лёс сірочы.
Нам свецяць сонца, зоры з вышыні,
Але ярчэй — святло душы жаночай.
Жыццё ты за няўдачы не кляні,
Яго не па гадзіннiку пясочным,
А па каханні нам адмерыў час.
І іншай долі не бывае ў нас.

## Я ПАБУДУ ЯШЧЭ...

Я пабуду яшчэ
На гэтым беразе,
Дзе збіраюцца птушкі ў далёкі вырай,
Дзе познія чмялі гудуць у верасе,
Дзе восень ходзіць з залатою лірай,
Дзе ранкам між дрэў павуцінкі ў росах
Трымцяць перад першымі халадамі,
Дзе ў набрынялых маркотных лозах
Яшчэ бабры шныпораць начамі.
Так.
На гэтым беразе я пабуду,
Пакуль мой човен не прымкне да кручы,
Пасівеўшы сам з перапуду,
Лістападаўскі сівер сліпучы.
Сэрца б'ецца чамусьці, як рыба ў нераце.
Віецца ціпельца начлежнага дым.
Я пабуду яшчэ на гэтым беразе,
Пакуль не чакаеш мяне на тым.



На вадзе — кругі, кругі...
Што ўсплыло?
Што патанула?
Навальніца дрогкім гулам
Працінае берагі.

Пад маланкавым лязом
Веру я, што не загіне
Мудрасць вечная лясоў,
Урачыстасць воднай плыні.

Развітаюцца грамы
З гэтай рэчкай і лясамі.
Развітаемся і мы
З прыгажосцю гэтай самі.

Нехта стане тут другі,
Каб спытаць сябе прачула:
«На вадзе — кругі, кругі...
Што ўсплыло?
Што патанула?»



Свеце мілы і нямілы,
Дай упартасці і сілы.
Поўны стомы і адчаю,
Тэлефон свой адключаю.

Адключаюся ад спрэчак,
Розных плётак і размоў.
Падключаюся да рэчак,
Да лугоў і да бароў.

Да забытай намі сцежкі
Каля роднага сяла.
Да загадкавай усмешкі.
Што мяне з табой звяла.

Ля ракі пасуцца коні,
Скача ўподбрыкі лашак.
На якім жа перагоне
Я сустрэў цябе, дзівак?

Разам бралі два білеты,
Каб да шчасця — напрамкі.
Разышліся нашы мэты,
Як у полі цягнікі.

Мабыць, ёсць свае законы
Для памылак і прычын.
Ні пры чым тут перагоны,
Цягнікі тут ні пры чым.

## НЕШАНЦАВЕНЯ

Нешанцавеня ціпла жыў.
І не курыў ён і не піў.
Маральна ўстойлівы быў змалку.
Любіў ён жонку і рыбалку.

Быў ён асобай адмысловай.
Ды і па лесвіцы службовай
Ён ціха рухаўся вышэй.
Дзе і адказней і цяжэй.

І ўжо начальніка аддзела
Часова замяняў ён смела.
І часта ўжо Нешанцавеня
Сядзеў не ў зале, а на сцэне.

Яго б павысілі па службе,
Бо ён з усімі быў у дружбе,
Калі б аднойчы не ўсплыло:
— Чакайце, нешта з ім было?!

— Калі было — тады не будзем,
Бо што пра гэта скажуць людзі? —

Рашуча мовіў кадравік,
Які вагацца не прывык.

І ўжо часцей Нешанцавеня
Сядзеў у зале, чым на сцэне.
Хаця ляцелі год за годам,
Яму ўсё не давалі ходу.

Вось і начальніку аддзела
Труба пенсійная прапела.
Зайшла гаворка аб замене:
— А што, калі Нешанцавеня?
Ізноўку даўняе усплыло:
— Чакайце, нешта з ім было?!

— Калі было — тады не будзем,
Бо што пра гэта скажуць людзі? —
Рашуча мовіў кадравік,
Які вагацца не прывык.

Ніколі ўжо Нешанцавеня
На сходах не сядзеў на сцэне.
А дзе і як ён пагарэў,—
І сам, бядак, не разумеў.

Аднойчы ўвесь аддзел зашыкаў,
Нешанцавеня — аж панік,
Калі яго ўсё ж паклікаў
У кабінет свой кадравік.

Адчуўшы дрыжыкі ў каленях,
Ішоў туды Нешанцавеня.
— Скажы, ну што з табой было? —
Зноў у гаворцы ўсплыло.

Стаяў ён смірна, як салдат,
Цярэбячы пустую папку:
— А-а, гэта дзесяць год назад
Тут у мяне ўкралі шапку...

* * *

Тайнам стрэсавых хвароб
Як знайсці разгадку?
За царквою ранкам поп
Робіць фіззарадку.

Хоць ніколі не грашыў,
Не любіў лячыцца,—
У трусах «Райшырспажыў»
Стаерам імчыцца.

На сцяжынку, між крыжоў,
Вывела эпоха,
Як між вузкіх палюсоў
Інфаркту і бога.

Робіць ён за кругам круг,
Хекае, пацее,
Каб ажыў здаровы дух
У здаровым целе.

А з-пад сонечных аблог
Лайнер выткаў стужку,
Нібы гэта зверху бог
Благаслаўляе службу.

Круціць, пэўна, сам наўкруг
Гром, нібы гантэлі,
Каб ажыў здаровы дух
У здаровым целе.

Сумна ён глядзіць на дол
З зорнага сусвету,
Як асілак-дыскабол,
Круцячы планеты.

Мабыць, праўда, на Зямлі
Яшчэ гора многа,
Што да стрэсаў дажылі
Нават служкі бога.

## ХАРЫТОН І ЗАКОН

Хто такі наш Харытон?
Кіраўнік шаноўны ён.
Харытон — не лыкам шыты:
Загадчык базы дэфіцыту.
Таму паводзіць Харытон
Сябе, нібыта фон-барон.

Хто не знае модніц мары
Пра замежныя тавары?
Хай яны і так сабе,
Толькі кожная грабе.
Тут адны турботы:
Не адстаць ад моды!

Ёсць такія і мужчыны,
Што ўшчынаюць крык грачыны,
Толькі б ім дастаць абновы
З нейкай блямбай мадэрновай.

І таму наш Харытон
Забываць стаў пра закон.
Па плячы лісліўцаў ляпаў
І, як кажуць, браў у лапу.

Неяк звоніць тэлефон:
— Ты на месцы, Харытон?
Мы з табой даўно у дружбе.
І таму цябе па службе
Вышай вырашыў прапхаць.
Годзе збоку загараць!

Пераедзеш да вясны
Ты у цэнтр наш абласны...
Тут мой сын рашыў жаніцца.
Каб мне меней мітусіцца,
Ён прыедзе — абслужы
І, чым можаш, памажы.
Гэта просьба — не загад...

— Што Вы, што Вы?
Вельмі рад! —
Успацеў аж Харытон,—
Хай хоць сёння едзе ён!

— Так, ён сёння і прыедзе,
Сын ужо ля базы недзе...

Узгарэўся Харытон.
Сустракае госця ён.
Ну, а чый жа гэта сын —
Не прыйшло на успамін.

Для сябе той і для жонкі
Адкідае дзве дублёнкі,
Два вельветавых касцюмы,
Два пакункі жвачкі-гумы,
Джынсы, штруксы, вадалазкі,
Боты, шорты і падвязкі...
Словам, розныя тавары
І, як правіла, па пары.

Харытон такому сыну
Сам цягае ўсё ў машыну.

— Вось што,—
Кажа той сурова,—
На прымерку я абновы
Сёння ў горад адвязу,
Заўтра грошы прывязу.

І машына тая знікла,
Толькі пыл узняўся ўслед.
Харытон хадою звыклай
Зноў падаўся ў кабінет.

А каму тавар аддаў,
Харытон не запытаў.
Неўзабаве аж зароў:
— Я — ахвяра махляроў!

Хто махляр найбольшы тут,
Следства вырашыць і суд.

## МУДРЭЦ І ХЛАПЕЦ

На пыльным гасцінцы
Спыніўся мудрэц,
Каб выпіць з крыніцы
Вадзіцы карэц.
Хлапец там
Крынічнае дно падчышчаў
І песню
Узнёсла-шчасліва спяваў.

Заслухаўся старац,
Аж сэрца шчыміць.
На момант
Яму расхацелася піць.
— Чаму ты,
Мой отрак,
Вясёлы такі,
Нібы за спіною ў цябе
Не вякі
Крывавых пажараў,
Праклёнаў і слёз...
Ці, можа, не ў гэтай
Старонцы ты рос?

— Даруй мне, дзядуля,—
Прамовіў хлапец,
Падаўшы крынічнай
Вадзіцы карэц.—
Як зараз табе
Захацелася піць,
Так хочацца мне
І кахаць, і любіць.
Аддаўшыся ў полі
І стаўшы маёй,
Паслала дзяўчына
Мяне за вадой.

— Распуснікі! —
Грозна ўсклікнуў мудрэц.—
Вось так набліжаецца
Свету канец! —
Грудзьмі наваліўся
На кій свой сухі: —

Я буду маліцца
За вашы грахі!

— Не трэба, дзядуля,—
Прамовіў юнак,
І сам з той крыніцы
Напіўшыся ўсмак.—
Калі не кахацца,
Калі не любіцца,
Усе перасохнуць
На свеце крыніцы.
А іншы мудрэц завітае сюды,—
Падаць жа павінен
Хоць нехта вады.

Сказаў,
Уздыхнуўшы,
Мудрэц у цішы:
— Хутчэй жа з вадой
Да дзяўчыны бяжы!

## ПАЛЕССЕ

### Песня

*У. Будніку*

Палессе, беларускае Палессе,
Люблю твае лясныя краявіды,
Зімой і летам звонкія, як песні,
Што мужнасцю і славаю спавіты.

Шмат казачных мясцін у Беларусі,
Ды я люблю, люблю старонку гэту.
Дзе я ні буду, а сюды вярнуся,
Дзе я ні буду, а сюды прыеду.

Край легенд і край былін,
Люблю цябе — твой родны сын!

Квітнеюць на Палессі медуніцы,
Жадаюць шчасця нам з табой зязюлі.
Тут ранкам усміхаюцца крыніцы
Чароўнаю усмешкаю матулі.

Тут людзі незвычайнай прыгажосці
Сярод лясоў і рэк жывуць вякамі.
Хто завітае на Палессе ў госці,
Багаты стане вернымі сябрамі.

Край легенд і край былін,
Люблю цябе — твой родны сын!

## ПАТРЭБНА МНОГА ПЕРАЖЫЦЬ...

Зімовы дзень звініць, як звон,
Завейнаі сцюжай загайданы.
Скаваў палеткі і паляны
Марозна-летаргічны сон.
Ад светлай музыкі снягоў,
Якой так навакол замнога,
Расце, расце мая любоў
Да свету нашага зямнога.
Цячэ жыццё маё, цячэ
І праз віры парогі носіць.
Дзе — спёкай сэрца апячэ,
Дзе — сцюжай злоснай прымарозіць.
Але і там,
На віражы,
Дзе я успыхваў, як камета,
Не абрывалася ў душы
Мелодыя зямнога свету.
Патрэбна многа перажыць,
Патрэбна многа перабачыць,
Каб свет суровы палюбіць
І ўжо любоў не перайначыць.
Каб каля родных берагоў,
Зачараваны снежным дзівам,
Адчуць пад музыку снягоў
Сябе і вольным
І шчаслівым.

16 Зак. 1241

## УСХОДНЯЯ МАЗАІКА

* * *

Скажы, мудрэц, з чаго пачаўся свет
Сярод планет і вогненных камет,
Калі і мы на свеце не былі?

— З агню, вады, нябёсаў і зямлі!

Што больш за ўсё баіцца чалавек,
Як пачынае і канчае век,—
Скажы, мудрэц, каб ведаць мы маглі?

— Агню, вады, нябёсаў і зямлі!

Што больш за ўсё ён любіць, чалавек,
Спазнаўшы шчасце, радасць, боль і здзек,
Самаахвярна, як і я люблю?

— Агонь, ваду, нябёсы і зямлю!

* * *

Здрадзіць жонка і сябры пакінуць,—
Не, яшчэ ад гэтага не гінуць.
Злодзей ці праныра абкрадзе,—
Не, яшчэ, лічы, ты не ў бядзе.

Нас ужо залічвалі ў ахвяры
У жыцці патопы і пажары.
Выжылі. Рубцы на целе. Раны.
Ды жыцця ланцуг неабарваны.

Той ніколі сапраўды не гіне,
Хто Радзіму у бядзе не кіне.
Бо героя-сына нават прах
Ворага заўжды кідае ў страх.



Стары арол і малады груган
Аднойчы разам селі на курган.

Груган павёў наўкол крывавым вокам:
— О, слава мне!
Як я ўзляцеў высока!

Мярцвятніка арол убачыў зблізку:
— О, ганьба!
Як я апусціўся нізка!



Драбнеюць, нібы мак, уладары
Перад магутнай веліччу гары.

Ніколі іхнім вежам і палацам
Вышэй вяршынь завоблачных не ўзняцца.

Каб дасягнуць арлінай вышыні,
Спіну перад вяршынямі не гні.

Без ласкі ханскай дасягнем іх самі,
Калі ў жыцці не зробімся асламі.



Меў пры двары правіцель столькі слуг,
Бы ў яме выграбной смярдзючых мух.

Пладзіліся паслугачы і слугі,
Але яны не дохлі, нібы мухі.

І ліплі ад вясны і да вясны
Ліпучыя іх пальцы да казны.

Меж не было багаццю іх, пірам,
Бо пелі пахвалу уладарам.

Тады хор іхні перастане пець,
Як толькі зікнуць золата і медзь.

* * *

Правіцелю прыдворны астраном
Сказаў, што хутка будзе дождж і гром.
Засохлі ў садзе вінаград і ружы.
— Ніякай ласкі гэткаму клікушы!

Сякераю на месцы лобным кат
Яму па шыі трапіў акурат.
Ды астраном, відаць, не памыліўся:
У той жа міг з нябёсаў дождж паліўся.

* * *

Усцешана падумаў неяк шах,
Што ўсе вяльможы ходзяць на вушах
Перад яго вялікасцю і славай,
Перад ягонай ласкай і распраўай.

А забярэ яго служыць алах,—
То перад ім сам стане на вушах.

* * *

Вяльможа ўсё капіў на чорны дзень.
Каб мог, то нават свой уласны цень
Прадаў бы ў дзень апошні перад смерцю...
Яго з пакояў выграблі са смеццем
Аднойчы слугі, скарбы не знайшоўшы.
Людзей звярамі часам робяць грошы.
Там, дзе начамі глуха стогнуць скалы,
Па ім хаўтуры справілі шакалы.

* * *

Гад супакойваў госця пакрысе:
— Не бой-с-ся на-с-с...
С-свае мы тут ус-се...



У падзямелле, дзе канаў мудрэц,
Што некалі тырану запярэчыў,
Ягоны паскараючы канец,
Труп зверху апусцілі чалавечы.

— Мудрэц, няверны, падзівуйся ім,
І сам ты хутка зробішся такім!

Вар'яцтва месца замялі пяскі,
Ды засталіся на сцяне радкі:

«Тут я, Саід, знайшоў спачын і волю.
Паверце, у жыцці сваім ніколі
Я не схлусіў і век свой абагнаў,
За гэта ён мяне і пакараў».



Юнак закаханы — як дзікі скакун,
Што ўлады не зведаў аброці.
Не хопіць на свеце ні песень, ні струн
Яго летуценнай пяшчоце.

Як дзіўна: пасля ўсё знікае куды,
Калі ўжо ў сядло нам не ўскочыць?
Пра гэта маглі б расказаць нам дзяды,
Ды толькі чамусьці не хочуць.



Джыгнула джыгіта джалам змяя:
— Нарэшце цябе дачакалася я!

Кроў паказалася з раны джыгіта:
— У бітве за край свой не ўпаў я забіты.

І толькі сустрэўшыся дома з табой,
Я зразумеў, што не скончыўся бой...

* * *

Адразу гэта бачна па вачах:
Яго махлярствам надзяліў алах.
Але нікому не раскажуць вочы,
Што праз хвіліну ён зрабіць захоча.

* * *

Сабакі брэшуць — караван ідзе.
Сабакам нешта мо перападзе.
Ішлі б марудней, пэўна, караваны,
Калі б іх не аббрэхвалі нідзе.

* * *

Вэрхал на рынку узняў гандляр:
— Гора мне!
Злодзей украў тавар!
Хто злодзея затрымае,
Адразу той атрымае
Найкаштоўнейшы падарунак!..
І над натоўпам узняў пакунак.

Мудрэц падышоў:
— Падарунак давай!
— Спачатку ты злодзея затрымай!
Мудрэц па натоўпе правёў вачамі:
— Як бачыце,
злодзей стаіць перад вамі!
Ціха ўздыхнуў і сказаў гандляру:
— А падарунак я ўсё ж забяру...

* * *

Хто кнігу мудрасці чытае
Па зорах, травах і вадзе,
Той асалоду атрымае,
Якую не сустрэць нідзе.

Хто ласкі не адчуў жанчыны,
Яе пяшчоты і красы,
Няшчасны той не без прычыны
Ва ўсе эпохі і часы.

* * *

Як толькі за гарамі знікла сонца,
Да мудраца прыйшоў братазабойца.
— Не падыходзь! —
Той выгукнуў здаля.
Дарадца ўжо табе — пятля!

* * *

Вы бачылі на рынку крыкуноў,
Што гарлапаняць на сваіх аслоў,
Пасля ахвярна моляцца нябёсам,
На іхніх спінах едучы дамоў?

* * *

Калі галава на плячах,—
Не качан,
То не хапайся
За лук і калчан.
І на таран,
Растрыбушчаны ў спрэчцы,
Ты не ляці,
Калі сам не баран.



Два селішчы ляніўцаў дужых мелі.
Аднойчы паспрачацца захацелі
І грамаду відовішчам пацешыць:
Усё-ткі, чый лянівец лянівейшы?

Цяпер сказалі б, выбралі журы,
І тое аж да ранішняй зары
Усё сядзела, думала-гадала,
Як пераможцу вызначыць — не знала.

Рашылі так: зрабіць два буданы,
Пакласці ў іх ляніўцаў. Хай яны
Ляжаць у буданах, нібыта дома,
Бо ні на што не здатныя, вядома.

Пасля — адначасова падпаліць.
З буданчыка хто першы пабяжыць,
Калі агонь пад носам запалае,—
Той і прайграе...

Ды пераможцаў так і не займелі:
Ляніўцы ў буданах сваіх згарэлі.



Суддзю людскога стрэў махляр у полі
І асцярожна запытаў:
— Скажы, а ты ў жыцці ніколі
Не краў нічога і не браў?

Той памаўчаў.
Сказаў:
— Што будзе,—
Сам знаю, ты не гавары,
Калі пачнуць махлярыць суддзі,
Прысуд выносіць — махляры.

* * *

Старая жонка — як арліца —
Глядзіць на свет з свайго двара.
А муж стары — нібыта спіца,
Якую выкінуць пара.

* * *

Адмовіла ты беднаму паэту,
Што смеласць меў прасіць тваёй рукі.
У безнадзейнай любасці за гэта
Цябе праславіў ён на ўсе вякі.
Хай ля цябе віецца, нібы вуж,
Залатаносны перастарак-муж,
Ніхто не зможа замяніць паэта.
Відаць, пайшло так ад стварэння свету:
Заўжды багатым — лепшыя плады,
Як свінням — жалуды.

* * *

Даў зарок Махмуд:
«Не п'ю віно!» —
Як адчуў, што апускаецца на дно.
І ад горкай думкі
Зноў да дна
Поўны келіх выжлукціў віна.

* * *

Ля арыка пачуў правіцель смех.
Дзе раб з рабыняю ляжаў на ложы ўцех.

Аскераў прыпыніў ён асцярожна,
Што ўжо кінжалы выхапілі з ножнаў.

Рознапляміённы ўспомніў свой гарэм,
Дзе ён даўно ўжо страсцю не гарэў.

Каня наперад тузануў рыўком,
Упершыню схацеўшы стаць рабом...

* * *

Што можа быць жахлівей гэтай драмы?
Каб лёс наложніц не дастаўся ім,—
Рабілі знахары на целе шрамы
Употайкі красуням маладым.

Цяпер — наадварот.
Каб замуж выпхнуць
У дзеўках закарэлую каргу,—
Яе перафарбуюць, нават выгнуць,
Калі яна сагнулася ў дугу.

* * *

Асёл угледзеў ля сябе асла
(Іх прывязалі побач да кала):
— Я дзень у дзень працую, нібы вол,
Аднак усе завуць мяне — «Асёл».
Другі падтакнуў:
— Бачыў я: валы
Таксама робяць часам, як аслы.

* * *

Маліў прарока муэдзін:
— Ты толькі дапаможаш мне адзін,
Адступнікі бягуць ад нашай веры,
Як ад халеры.
Гнеў ахапіў вялікі Магамета:
— Ты ўсе мае парушыў запаветы!
Збягаюць нечасціўцы не ад веры,
А ад цябе, прыблуды, ад халеры!

* * *

Нявесту плакаць прымушае звычай.
Яна лье слёзы,
                    не шкадуе іх.
А перад ёй у позе ваяўнічай,
Нібыта певень, топчацца жаніх.

Што зробіш тут?
Хай топчацца юнача,
Як некалі тапталіся мы ўсе.
Пасля вяселля ён яшчэ паплача,
Як зацугляе жонка пакрысе.

* * *

Дыктатару далдоняць з году ў год
Князькі, што ашчаслівіў ён народ.
А як змахне народ тырана з трона,—
Праклёны шлюць услед, наадварот.

* * *

Жаданням чалавечым меж няма.
Жаданей тое нам, чаго не маем.
Хто скажа нам: няўжо тады дарма
Аб тым шкадуем, што ў жыцці губляем?

* * *

Расце ў душы надзей вялікіх сад,
Хаця у чалавека — век кароткі.
Хто у жыцці не зведаў горкіх страт,
Не радуюць таго, відаць, знаходкі.

* * *

Ласкава дакараў паэта шах:
— Не быў ні разу ты ў мяне ў гасцях!

І адказаў паэт сумленна шаху:
— Яшчэ я не спяшаюся на плаху...

* * *

У натоўпе — балбатун,
Як на галаве — каўтун.
Хоць ты вырві,
Хоць ты зрэж,—
Застаецца брыдкі плеш.

* * *

Дурань дурнога сустрэў дружбака:
— Слухай, не бачыў майго ты быка?
Штаны падцягнуў той парваныя:
— Не-е!
Затое ён добра разгледзеў мяне!

* * *

Прыдворныя хлусілі ўладару.
Быць перад ім праўдзівым — небяспечна.
Калі сказаў ён неяк:— Я памру!
Суцешылі, што жыць ён будзе вечна.

Набычыўся ён на адказ такі,
Крывёю наліліся твару рысы:
— Жывуць на свеце вечна слізнякі,
Такія толькі, як і вы, падлізы!



Каб не было на свеце пацукоў,
Хто ведае, які б нас лёс знайшоў.

Які ні брыдкі пацучыны вус,
Ды першы прадчувае землятрус.

Але, каб сцерлі нас з зямлі вякі,
Ці выжылі б на свеце пацукі?



Зайздрасць служыць злу,
Нібы кінжал злачынцу.
Ёю за няўдачы нам не разлічыцца.
Зайздросціць, хоць і знае чалавек,
Што зайздрасцю свой скарачае век.



Усё жыццё кляпаў ён на другіх
І вось цяпер, як кажуць, дакляпаўся:
Сяброў надзейных разгубіў усіх
І без халатаў шоўкавых застаўся.

Народ смяецца.
Багацеі — кпяць,
Аддзьмухваюць убок, нібы палову.
І позна ўжо ізноў перакаваць
Сваё жыццё, як дрэнную падкову.



Як вада між берагамі,
Так каханне паміж намі:
Нас то злучыць, то разлучыць,
То падрэжа раптам кручы.
Для пакут і для тугі,
Пэўна, нашы берагі.

* * *

Хвалілася красуня-ўнучка дзеду:
— Вось захачу, пакіну вас і з'еду.
Каханнем заваражаны спаўна,
Любы джыгіт аддасць мне скакуна.
— О, не, унучка! —
Дзед сказаў адкрыта.—
Хоць за табою — жаніхоў гайня,
Знайсці цяпер сапраўднага джыгіта
Яшчэ цяжэй, чым добрага каня.

* * *

Ганьба — гандляваць зямлёй бацькоў,
Змалку шанаваць яе вы ўмейце,
Бо яна для нас, нібыта кроў,
Без якой нам не пражыць на свеце.

* * *

Пры двары паслугачы
Маюць добрыя харчы.
Дык чаго ж яны грызуцца,
Як у полі крумкачы?

Быць бліжэй да трона хочуць,
Следам — клан падцягваць свой.
Вось таму і дзюбы точаць
Міжусобнаю вайной.

* * *

Шакал шакалу нашакаліў:
— Давай мы разам пашукаем
Для зграі нашай свежыны.
Вунь там, на пашы, бараны.
Каб нам не быць навідавоку,

Бяжы ты ўперадзе, я — збоку,
Рабі ўсё так, як я скажу.
Быць з ежай нашаму лаўжу!

Схапілі барана?
О, не!
Капкан стаяў на сцежыне.
Шакал, што недарэку раіў,
Сам верхаводзіць стаў у зграі.

* * *

Візір заморскіх частаваў паслоў.
Аддаў ім і пашану і любоў.
Астачу — гнеў, пагарду і нянавісць —
Ён для прыдворных прыхаваў аслоў.

* * *

Нам спазнаваць таемны ход жыцця,
Хоць і не ўзняць нікога з небыцця.
Ды чалавек ад гэтага не плача,
Нібы бездапаможнае дзіця.

Ён пазнае планет адвечны рух
І ведамі свой наталяе дух,
Каб невукамі не раслі нашчадкі,
Каб розум іх ніколі не патух.

* * *

Куды ні глянь — наўкол ліецца кроў.
Дзе ад злачынстваў паратунку сродкі?
Напэўна, кнігу мудрасці вякоў
Не да канца нам дапісалі продкі.

Свет захлынуцца ў жорсткіх войнах мог,
Як выжыў ён, пакутамі працяты,
Калі жыццю крывавы эпілог
Дапісваць лезуць каты і вар'яты?

* * *

Бясплатна раздае пляткар
Усім смярдзючы свой тавар.
Які ж ён мае сам набытак,
Сваёй сумленнасцю гандляр?

Тут не ў набытку, мабыць, справа.
Вядома гэта плеткару:
І кропля часам точыць скалы,
Пасля расколвае гару.

* * *

Юнак сябрам хваліўся, як індык:
— Жонцы языкатай адкушу язык!
Як ажаніўся — анямеў наўздзіў,
Нібы язык уласны адкусіў.

* * *

Хто страціў у людзей павагу і давер,
Той небяспечны, як драпежны звер.
У ганьбе — ён ахвяр вышукваць мусіць,
Не загрызе — абавязкова ўкусіць.

* * *

Ён кляўся ўсім, што любіць свой народ,
Што выцягне яго знішчаць прыгнёт.
А толькі дацягнуўся сам да трона —
Пачаў народ цягаць на эшафот.

* * *

Ёсць і такія змагары,
Што ў бойку клічуць з-за гары.
Народ штурхаюць на ахвяры,
Каб спакайнелі ўладары.



Калісьці заваёўнікі хапалі
Малых дзяцей, не нейкі там тавар.
З маленства іх няшчадна муштравалі:
Рабілі фанатычных янычар.

Адзінакроўцаў выразалі тыя,
На ўсёй зямлі не знаючы радні.
Вядома, што цяпер часы не тыя,
А янычары ёсць і ў нашы дні...



Да жонкі першай завітаў Махмуд,
Ад трэцяй нацярпеўшыся пакут.

Старога ледзьве адпаіла тая
Кумысам свежым і зялёным чаем.

Святочныя уборы апранула,
Адкінула гулліва паранджу,
Ласкава, па-дзявочаму зірнула:
— Давай з табой хоць трохі паляжу...

— Не трэба, чуеш! —
Закрычаў Махмуд.—
Дай адпачыць хоць ты спакойна тут.

Памылку, пэўна, дапусціў каран:
Губіць мнагажонства мусульман!



Правіцель, што не хоча слухаць голас
Народа, між падбрэхічаў сваіх
Нагадвае пусты на ніве колас
Каля ўраджайных каласоў цяжкіх.



Нясе, як трэску, горная рака
Да скал гарбатых човен рыбака.

На быстрыні раптоўна, якназло,
Зламалася ў руках яго вясло.

Убачыўшы зыход тут немінучы,
Нявеста кінула вяроўку з кручы.

І падцягнула к берагу яна
Нябогу, як за рогі барана.

Аддыхалася трохі і сказала,
З дакорам паківаўшы галавой:

— Я жонкаю тваёй яшчэ не стала,
А ты мяне ўжо робіш удавой!



Бурклівая жонка, нібыта буран:
Нясецца, трасецца, злуецца.
А жонка маўклівая, нібы вулкан:
Не знаеш, калі ўзарвецца.



Стары казёл — у чарадзе важак.
Ён да юрлівых гульняў страціў смак.

Наступнікаў каб адпалохаць,— сам
Хрыбты ламаў ён маладым казлам.

Калі б маглі, усе, напэўна, козы
Лілі б з адчаю ялавыя слёзы.

Віну адчуўшы, быццам боль пякучы,
Старэча сігануў аднойчы з кручы,

Каб чарада яго без важакоў
Здабычай не зрабілася ваўкоў.



Жыў у пячоры доўгі час манах.
Яго не гнёў у адзіноце страх.

Сярод узнёслых думак і надзей
Пачаў губляць ён веру у людзей.

Вясною аднойчы прагрымеў абвал
І заваліў пячору паміж скал.

Ён не звярнуў увагу і на гэта,
Падумаўшы: канец прыходзіць свету.

Пра дзень ці два манаха ў перапудзе
Напаўжывога адкапалі людзі.

— Мы думалі, загінуў ты, дзівак,
Па-чалавечы пахаваць, аднак,
Рашылі мы са згоды грамады.
Цяпер, відаць, жыць доўга будзеш ты!

Заплакаў горка згорблены манах.
І празарэнне выклікала страх,

Што між узнёслых думак і надзей
Ён не зрабіў нічога для людзей.



Там, дзе ў сям'і знікаюць мір і згода,
Псуецца, мабыць, будучыня роду.
Як між сабой народы варагуюць,—
Псуецца чалавечая прырода.



Правіцель праўду гаварыць не хоча,
Нібыта ў ёй ёсць нейкая мяжа.
Хлусня — яна не раз'ядае вочы,
А душы раз'ядае, як іржа

* * *

Хто мову сваю ганіць — матчын дар,
Не прынясе карысці ён народу,
Бо па жыцці, як люты янычар,
Ён коціцца — ні племя і ні роду.

* * *

Залучыць імкнуцца ўладары
Мудрацоў у вечныя сябры.
Абяцаюць горы залатыя...
А як клюнуць на прыманку тыя,
Мудрасць раптам,—
Як вада ў пясок.
І нікчэмны робіцца прарок.

Той, хто з іх спакусе не паддаўся —
У народа ў памяці застаўся.
Бо мудрэц сапраўдны — не вяшчун,—
Праўды, справядлівасці — вястун!

* * *

Старога мудраца, які даўно аслеп,
Аднойчы вучні везлі на асле
Паўз людны рынак, дзе купец былы
Шараваў гандлёвыя сталы.

Той заскуголіў горка:
— О алах!
І мудрацы ўжо ездзяць на аслах!

Стары ўсміхнуўся, кінуў у адказ:
— З чаго пачаў — канчаеш тым якраз.

Ты памятаеш, як я гаварыў,
Калі яшчэ ты багацеем быў:

«Спакойна той замкне жыццёвы круг,
Хто многа вучняў мае, а не слуг!»

# ПАЛЕСКІ ТРОХКУТНІК

## Паэма

### 1

Яўхім наш, вартаўнік калгасны,—
«Зусім здаровы, розум ясны»,—
Сказалі б лекары пасля,—
У будане спаў, як цяля,
Калі ў гуркоўнік акурат
Упаў нябесны апарат.

Не, ён не ўпаў, а прызямліўся.
Спачатку доўга у небе віўся,
Пасля над поплавам завіс
І ціха апусціўся ўніз.

Яшчэ світанак быў няпэўны,
У вёсцы не спявалі пеўні.
Над лугам, градамі, ракой
Світальна-зябкі плыў спакой.

Што лёс Яўхіму напрарочыў?
Няўцямна той прыжмурыў вочы,
Адчуўшы скамянелы страх
Да свербу колкага ў вушах.

Пахаладнелі нават пяты,
Як звон раздаўся дзіўнаваты.
Нібы гіганцкія чмялі
Над буданом яго гулі.

Ён чуў пра нейкія талеркі
Ад школьніцы, унучкі Веркі,
Пра нейкіх іншапланецян,
Што любяць выкрадаць зямлян.

Вяртаюць, праўда, іх жывымі.
Ды хто пабыў з гасцямі тымі,
Пасля, як божы чалавек,
Без клёпкі дажывае век.

Чужынцам быў Яўхім не рады.
«Ну, ўсё.

Цяпер прапалі грады», —
Падумаў ён.
А паміж град,
Як грыбаварны апарат,
Дыміўся выпуклы кацёл,
Блішчаста-яркі, як касцёр.

2

І толькі пеўні дзень прапелі, —
З таго агністага катла,
Нібы з пражэктара, ўзляцелі
Два промні зыркага святла.

Ваўчком-бачком кацёл хіснула.
Са схову іншапланецян
Нібы гарматы нейкай дула
Нацэлілася на будан.

Ад нечаканасці Яўхім
Спачатку здзервянеў зусім.
А потым — куляй з будана.
Аднак тугі прамень святла
Яго намацаў акурат.

Ён бег наперад, ды назад
Яго чамусьці пацягнула.
Ён гроб рукамі, чмыхаў носам,
Ды, як паветраным насосам,
Яго ўсмактала раптам дула.

Аб нешта выцяўшыся задам,
Ён слізгануў, нібы ў нару,
І нават вылаяўся раптам:
Слоў гэтых вам не паўтару...

Прыкмеціў я:
Сярод людзей,
Якія ні былі б прыгоды,
Жыве пытанне:
Што далей?
І ў гэтым мудрасць ёсць прыроды.

Здаецца, чалавек капае,
Нібы травінка ў сухавей.
— А што далей? —
Усё ж пытае.
Яго цікавіць:
Што далей?

Спрадвеку гэтае пытанне,
Нібы сцяжынка да пазнання,
Наперад нас усіх вядзе,
Няхай ты ў шчасці ці ў бядзе.

Як палахлівы галубок,
Ад страху сэрца трапятала.
І, дзеўбучы Яўхімаў бок:
— А што далей? —
Усё ж пытала.

3

А што далей?
Як на экране,
Свіціцца раптам стаў Яўхім,
Адчуўшы,—
Іншапланецяне
Спынілі позірк свой на ім.

Спіна яго і скроні ўзмоклі.
Ён стаў драбнець, як агурок,
Бы ў перавёрнутым біноклі
Сябе убачыўшы здалёк.

Але, напэўна, маса цела
Драбнець ахвотна не хацела.
Нябёс ахвяра — вартаўнік —
Узняў, нібы на градах, крык.

— Чаго крычыш? —
Пачуўся голас
З акцэнтам нейкім незямным.—
Ніхто з зямлян
Не быў даўно ў нас.
Ты нашым госцем стань,
Яўхім!

Быў гэты голас меладычны,
Як ранкам цёплая рака.
І на душы спакой касмічны
Разліўся у вартаўніка.

Бы ў будане, запахла сенцам,
Не стаў баяцца наш герой
Цяпер не тое што прышэльцаў,—
Нават Яўхіміхі самой.

Зачараваная пяшчота
За хваляй хваляю плыла.
Калі яшчэ яго істота
Такою лёгкаю была?

Усе трывогі, страхі зніклі,
Ляцець хацелася без крыл.
Ён, словам, апынуўся ў цыкле
Загадкава-касмічных сіл.

Калі гіпнозам ты працяты,
Ратункам здасца і сіло...
І толькі раз:
«А як жа грады?» —
Чамусьці ў памяці ўсплыло.

4

А як жа грады? Уцалелі.
І так на золку расквітнелі,
Што брыгадзір ледзь не аслеп,
Ныраючы ў буданчык-склеп.
Любіў гуркі ён і Яўхіма,
Таму і не праходзіў міма.

«Ты дзе, Яўхім?!» —
Як з амбразуры,
З аконца ўбачыў брыгадзір:
Дзе далягляд ясней пахмуры,
Мігцела зорка, як пункцір.

Хацеў ён бегчы да канторы,
Ды там пакуль — нікога ў зборы,

Бо не ставала старшыні,
Ён быў у Гомелі два дні.

Людзей, аднак, будзіць не трэба.
Усе вяскоўцы ўжо на неба
Глядзелі, высыпаўшы з хат.
А нейкі адпускнік-салдат
Званіў у райваенкамат.

Заўжды ў нязвычныя хвіліны
Яднае нас настрой адзіны.
Ну, а які ў людзей настрой,
Калі над самай галавой
І сакатала і звінела,
Ажно зямля наўкол дрыжэла.

Ды сціхла ўсё.
Як па загаду,
Натоўп — бягом-трушком на грады:
Што ім раскажа сам Яўхім?
І ці жывы ён,
Што там з ім?

Убачыўшы такое дзіва,
Прыспешна болей — мітуслівa
У грады шухнуў брыгадзір,
На ўзмежку узараўшы жвір.

Яго нацiна добра ўкрыла.
Ён запаўзаў натоўпу з тылу.
Пасля — зрабіў ён так чаму? —
Тлумачыць прыйдзецца яму.

5

Ты дзе, Яўхім!!!
Няма Яўхіма.
Наўкол — ні грукату, ні дыму.
Там, дзе спускаўся апарат,
Жаўцела пляма паміж град.

Настала горкая хвіліна.
Вяскоўцы ўбачылі здаля,

Як варушылася націна,
Як варушылася зямля.

А брыгадзір —
Запоўз ён з тылу —
Цяпер наперадзе смялей
Глядзеў у гэтую хвіліну
На поплаў, грады і людзей.

Ён, лідэр
Сельскага значэння,
Са стажам доўгім,
Мусіў знаць:
Якое ні было б здарэнне,
А ён павінен кіраваць!

Пачаў было казаць прамову,
Суцешыць каб усіх людзей,
Але набыў кірунак новы
Ланцуг тых ранішніх падзей.

З-за лесу сонейка ўставала,
Над поплавам радзеў туман.
Што ж гэта зноў усхвалявала
І так разгубленых сялян?

Націна ўстала ўсім надзіва,
Як высачэзная сцяна,
Нібы ў нябёсы да Яўхіма
Ляцець збіралася яна.

Ну, а пад ёю, а пад ёю
У промнях сонца — залатою,
Вялізныя, нібы кійкі,
Звісалі свежыя гуркі.

Тут брыгадзір змяніўся з твару:
— Хутчэй цягніце, людцы, тару,
Бо вечарам замест гуркоў
Убачым толькі жаўтлякоў!
Мамэнт нам трэба не ўпусціць,
Бо па гурках наш план гарыць!

Гулі тут людзі ў перапудзе,
Гуркоўнік рос, нібыта лес.

І да Яўхіма ў гэтым гудзе
Аслаб грамадскі інтарэс.

Цану набытку людзі знalі,
Дух паляшуцкі ўжо такі.
Ды колькі б іх ні выбіралі,
Ізноў з'яўляліся гуркі!..

Замоўклі людзі,
Бо з сяла
Да іх Яўхіміха ішла.
Карона дзіўная гарэла
Над галавой яе сівой.
І на хаду яна старэла
На цэлы век пражыты свой.

Яна людзей не заўважала.
Быў свет бабулі не відзён.
І толькі ціхенька шаптала
Замову даўніх-даўніх дзён...

6

Вадзіца-царыца,
красная дзявіца!
Кацілася ты з рэк,
з-пад рэк,
З крыніц,
з-пад крыніц,
З-пад крутых гор
і з-пад ясных зор,
З-пад цёмнага воблака
і з-пад чырвонага месяца,
Мінала абшары ты
палявыя і лугавыя,
Пушчанскія
і паганскія,
Бегла ты па лясочку,
па шчырцу-пясочку,
З дзікімі звярамі
і птушкамі гаманіла,
Сонейка, месячык
і зару-зараніцу паіла,

Бачыла многа ты
добрага і ліхога,
Аж да мора-акіяна
ў цябе дарога,
А на моры-акіяне,
на востраве Кіяне
Стаіць дуб
аб дванаццаці галінах-какатах,
А на дубе тым —
дванаццаць гнёздаў,
і ў кожным птах,
Хай жа ляцяць яны
ў свет шырокі
Аж пад зоры,
цераз горы, аблокі,
Крыламі шызымі
хай Яўхіма майго прыгалубяць,
Хай жа сіла нячыстая
яго не загубіць.
Вадзіца-царыца,
красная дзявіца,
Дай хоць кропельку
майму Яўхіму напіцца,
Да хаты роднай
яго прываражы
І, калі жывы ён,—
мне пакажы...

Крыніца ціха віравала,
Маўчала светлая крынічка.
І ў глыбіні адлюстравала,
Як адлятае ўдалеч знічка.

Яўхіміха па-над крыніцай
Схілілася ніжэй травы,
Забыўшыся перахрысціцца,
Адно сказала:
— Ён жывы!

Стаялі ўзбоч яе вяскоўцы
Па стойцы «смірна», як вайскоўцы,
Усе ў расе да галавы,
І выдыхнулі:
— Ён жывы!

Вяртаўся старшыня дамоў
З раёна сёння без вымоў.
На газіку, сам за рулём
Ён быў сапраўдным каралём.

Чытач,
Цікаўнасць напатоль:
Ён мае прозвішча — Кароль.
Яго і продкі — Каралі,
Спрадвеку каралі — раллі.

Хоць з прозвішча часамі кпілі,
Ды старшыню свайго любілі
Палешукі семнаццаць год
Паміж узлётаў і нягод.

Быў ён не [illegible] тых, хто на пасадзе
Служылі тым, хто іх «падсадзе».

Ён не служыў, а ён рабіў,—
Не вытрымала б і машына,—
Каб селянін заможна жыў,
І ўвесь народ,
І ўся краіна.

І ў друк папаў, хоць не саюзны,
Не за стараннасць і за плён.
«Чаму Кароль не кукурузны?» —
Так называўся фельетон.

Пасля, зацяты травапольшчык,
Сваім суседзям, як падпольшчык,
Употай пазычаў кармы
На схіле зацяжной зімы.

Яго не гэта ўратавала,
А, мабыць, тое, што сяло
Другіх старшынь не прызнавала
І ў адстаючых не ішло.

І свой раён ён «не лячыў»
Статыстыкай пыхліва-дзьмутай.

І корм галінкавы лічыў
Ён для жывёліны — атрутай.

Дзе да зямлі жыве любоў,
Няма праблемы там кармоў.

Таму і сёння у райкоме
Ён быў, нібыта ў родным доме.

Народ любіў яго.
Але,
Як на даследчым на экране,
«Галаву» свайго ў сяле
Штодзень «прасвечвалі» сяляне.

Чым больш «прасвечваўся» Кароль
Начальствам — зверху,
Людам — знізу,
Тым больш мацнеў ягоны боль
За гэты край балотна-шызы.

За край герояў-партызан,
Дзе здрадай лічыцца спадман,
Дзе і сягоння між людзей
Жыве пытанне:
Што далей?

8

На карце Гомель вы знайдзіце,
З ім Лоеў — Рэчыцу злучыце,
Вы самі ўбачыце:
Якраз
Трохкутнік атрымаўся ў вас.

Не той, Бермудскі,
Ды спасціг
І ён стагоддзяў навальніцы.
Я рады:
Выжылі між іх [illegible]
Тут землякі мае — вайцінцы.

Не той, Бермудскі, [illegible]
Але ўсё ж [illegible]

Ён зведаў дзіўныя часіны...
Здараецца, Дняпро і Сож
Цяруць адной паводкай спіны.

Паводка...
З нор бягуць звяры
На ўзлобкі, выспы у бары.
Паводка...
У лясной глушы
Паўзуць на дрэвы мурашы.

З хлявоў,
Са свірнаў нават мышы
Перашмыгаюць на гарышчы.
Ласі
Шнырацаць па лясах
З адчайным жахам у вачах.

Але яшчэ метэазводкі
Не зафіксоўваюць паводкі...

9

Пакуль Кароль, сялянскі сын,
На газіку трасецца недзе,
Апоўначы увесь Вайцін
На сход сабраўся ў сельсавеце.

Нібы ішла да Вайціна
Ізноў паводка ці вайна.
Заўжды
Загадкавасць падзей
У гурт збірае ўсіх людзей.

З плячэй як ношу скінуў люд,
Калі Кароль з'явіўся тут.
Нібы адно яго з'яўленне
Прынесла яснасць і збавенне
Ад незвычайнага здарэння.

А ён разгублена маўчаў.
Свяціліся вайцінцаў хаты.
— Не можа быць! —

Адно сказаў
І выдыхнуў як вінаваты,—

Не можа быць,
Не можа быць...
І вы б сказалі гэтак самі.
Ды вунь Яўхіміха стаіць
З двума малодшымі сынамі.

Вунь колькі тых ляжыць гуркоў
І на падворках, і на ўзмежках,
Нібы зімою гурбаў снежных
Пад вокнамі палешукоў.

«Не можа быць!
І што рабіць?» —
Пульсуе думка, як грамніца.
На свеце колькі нам ні жыць,
Ад гэтых слоў не адчапіцца.

І дзе ў пытанні гэтым зерне,
Спакой якое людзям верне?

10

Марудна ружавеў усход,
Яснеў і далягляд на ўсходзе.
Маўклівы той вясковы сход
І без прамоўцаў быў у згодзе.

— Не можа быць!
І што рабіць? —
У купках шэпчуцца сяляне.
Як зорка ранняя, гарыць
Па-над галовамі пытанне.

І вось пад сэрцаў перастук —
Няўжо і гэта не бяда ўся? —
Пачуўся раптам недзе гук,
Які мацнеў і пашыраўся.

Марудна ружавеў усход,
Яснеў і далягляд на ўсходзе.

У першых промнях —
Верталёт
Сеў на калгасным агародзе.

Падаўся зноў на грады люд:
І сапраўды тут нейкі цуд!

Рухавікі не адсвісталі,
Націна — ніцма, як быльнёг,
А ўжо з машыны паскакалі
Незнаёмцы на мурог.

Ну як жа зноў не ўсхваляваццa?
Насустрач чэшуць па расе.
Было іх чалавек дванаццаць,
Амаль з барадамі усе.

Глядзелі пільна, ды не строга,
На поплаў, грады і сляды.
Нібы апосталы ад бога,
Яны з'явіліся сюды.

— Друзья! —
Сказаў з іх невысокі
І кругленькі, як шарачок.
Чамусьці ўзяўшы рукі ў бокі.—
Все выясним в кратчайший срок!
Землянина исчезновенье —
Сверхуникальное явленье.—
Дадаў пад сэрцаў перастук:
— Мы с Академии наук!

Другі, што побач з ім стаяў,
Услед развaжліва сказаў:
— Усё, што здарылася тут,
Мы назавём:
«Вайцінскі цуд!»

11

Вайцінскі цуд!
Вайцінскі цуд!..
А колькі іх было на свеце?

18 Зак. 1241

Пакуль ачомаецца люд,—
Калі у думках мы па следзе
Самой гісторыі праедзем
Туды, былым вякам у глыб,—
Мы цуды падлічыць змаглі б.

Пачнём здалёк.
Цуд першы. Ён
Намерам смелым быў, нямарным:
Зрабіць славуты Вавілон
I ва ўсім свеце легендарным.

Калі цар Навуходаносар
Пачаў [illegible] узростам чмыхаць носам,
I ад хвароб і ад прастуд,
Ён і задумаў гэты цуд:
Прымі ж, мідыйская царыца,
Фантастычныя святліцы!

Было ўсяго іх чатырнаццаць,
I ўсе аднолькавых памераў.
Я, праўда, сам іх там не мераў,
Калі як на духу прызнацца,
Ды так гісторыкі сцвярджаюць,
Яны ж усё на свеце знаюць.

I цыліндрычныя скляпенні
Злучылі залаў сутарэнні.
А на скляпеннях і тэрасах,—
Быў цар з фантазіяй, глядзі ты! —
На чатырнаццаці палацах!
Цвілі сады Семіраміды!

«Так, так...
Напэўна, і ў цароў
Усемагутны цар — любоў!» —
Падумаць можна рамантычна.
Калі ж, папраўдзе, то практычны
Каханню цар падносіў дар.
Ахвярай стаўшы юных чар,
Ён згубна не пабег за марай,
Бо сам баяўся стаць ахвярай:

Пад навіссю інтрыг і змоў
Якая там ужо любоў!

Быў цуд той комплексны.
Даруйце,
За вызначэнне не ганьбуйце:
У вушы нам усім даўно ўлез
Універсальны выраз —
«Комплекс».

У незвычайнае стандартнасці
Палац адменныя меў вартасці.
Ніхто не ведаў і не знаў,
Дзе сёння цар той начаваў,
Каму на свеце ведаць-знаць,
Дзе заўтра будзе начаваць?

Пад навіссю інтрыг і змоў
Якая там ужо любоў!

Дарэчы, Навухаданосар
Усім аматарам даносаў
Мяшэчак з золатам на шыю
Уласнаручна накідаў.

А потым з шоўку матузочак
Прыдворны кат, сын цёмных ночак,
На шыях іхніх і ахвяр
Уласнаручна заціскаў
І золата цару вяртаў.

Штодзень багатыя сады
Паўзмрокам вокны ахінаді.
— Які яшчэ ты малады! —
Цара бадзёрачы, шапталі
Вяльможы і малілі бога,
Каб ён хутчэй забраў старога.

Пад навіссю інтрыг і змоў
Якая там ужо любоў!

Раўніва Навухаданосар
Зубамі скрыгаў, шморгаў носам.

Цвілі сады Семіраміды,
Натоўпы ў Вавілон плылі.
А карані, як сталактыты,

Са столі віслі да зямлі.
І царадворцы-фарысеі
Між іх віліся, нібы змеі.

12

У нашай даўняй старане
Цуд першы быў на Вайціне.

Яго на свеце існаванне —
Амаль што з часу заснавання
Славутай Кіеўскай Русі,
Калі мой продак галасіў
І ад прымуснага хрыпчэння
Шукаў ратунку і збавення.

Пасля ад Нікана раскольнік
Бег у Вайцінскі «треугольник».

На выспах між Дняпром і Сожам,
Сярод балот, сярод лясоў
Сяліўся той, хто час трывожыў,
Супраць цара і бога йшоў.
Казакаў Сечы Запарожжа
Яно прымала, вусце Сожа.

І Пугачоў, нядолі сын,
Свабоды пералётны птах,
З хаўруснікамі, не адзін,
Лячыў тут раны па лясах.

У вёсках тут старых і новых
І сёння многа Пугачовых
Ды Петрашэўскіх, Каліноўскіх,
Ёсць нават прозвішчы маскоўскіх
Баяр апальных і князёў,
Што выракаліся цароў...

Гусар прыбіўся, жалю варты:
Прайграў казну і жонку ў карты.
Казна — бог з ёй!
Ну, што ж — прайграў!
А з жонкай аж сюды дапяў.

Незацугляны дух цыганскі
Тут ладзіў з вераю паганскай.
Паляк, татарын і яўрэй
На свет глядзелі тут смялей.

Непаабсмыленыя панам,
У неадступнасці жуды,
Хаця б плыўцом, але з каханым,
Нявесты прагнулі сюды.

На выспах побач у скітах
Жыў і раскольнік і манах.

І з Кіева-Пячорскай лаўры
Збягалі інакі за Сож...
Не б'ю ад гэтага ў літаўры,
Аднак хачу сказаць усё ж:
На Вайціне на самай справе
Расла дзяржава у дзяржаве.

Хаця у гэтай у дзяржавы
Ні войска нейкага, ні славы,
Ды жыў закон былых вякоў:
Свабода,
Роўнасць
І Любоў!

Таму нявольнік і пакутнік
Пра гэты марылі трохкутнік.

13

Глыбінныя выспы Міжрэчча —
продкаў маіх цытадэлі,
Гаротнага лёсу Палесся —
выратавальны цуд!
У цемрадзі самаўладства
вы свечкамі светла гарэлі,
Вас не задзьмулі віхуры
адвечных трывог і пакут.
Дзяржаўцы і самаўладцы
стругі і лайбы слалі.
Зверху — царская міласць,
пад ёй — ланцугі, кайданы.

У цёмных вірах дняпроўскіх,
калі яны не знікалі,
Іх праглыналі ў трохкутніку
багна і плывуны.
Брады і кладкі вынюхвалі
вужакамі часам пралазы,
Ды ўвачавідкі ўбачыўшы
розпапляменны цуд,—
Маглі б расказаць і сёння
пра гэта дубы і вязы,—
Самі сабе выносілі
на тоўстых суках прысуд.
Перад нашэсцем варожым
збіраліся на дзядзінцы
Бортнікі, смалакуры,
аратаі і цесляры.
Тачылі шаблі і пікі,
чысцілі ружжы вайцінцы,
Трывожна шумелі над імі
балотнай аблогі бары.
Іх у народзе і войску
палескімі звалі братамі,
Нянавісць сваю не хаваючы
да паншчыны і вайны,
Не зашываліся ў выспы
вайцінцы сляпымі кратамі,
На абарону Айчыны
заўсёды ўставалі яны.
Белага свету не бачыць
рабаўніку-чужынцу,
Яго засцілаў смяротны,
дрыготка-жывёльны страх.
Калі ён трапляў на піку
раз'ятранаму вайцінцу
Ці пад шалёнай шаблі
бязлітасна-трапны ўзмах!..
Гуртом сваім парадзелым,
раны амыўшы ў водах,
З-пад чаратоў са старыц
выцягнуўшы чаўны,
Падточаныя хваробамі,
натомленыя ў паходах,
Як выкарчаваўшы ляда,
дадому плылі яны.

Варылі жанчыны зелле,
музыкі ля вогнішчаў гралі.
Адпарвалі ў лазнях ратнікі
закарэлыя каўтуны.
І песні пра волю і долю
да зор высока ўзляталі,
І па чарзе падлеткі
ў пажарныя білі званы!..

14

...Учора ў раёне так званага «Палескага трохкутніка», у міжрэччы Дняпра і Сожа, зарэгістравана падзенне невядомага касмічнага цела. З мэтай правядзення грунтоўных даследаванняў на месца незвычайнага здарэння вылецела група вучоных Акадэміі навук...

*З паведамлення Тэлеграфнага агенцтва*

15

...Як стала вядома з неафіцыйных крыніц, рускія прыступілі да выпрабавання звышсакрэтнай зброі. У раёне так званага «Палескага трохкутніка», у міжрэччы Дняпра і Сожа, у выніку непаладак у сістэме навядзення адбылася аварыя. Сярод жыхароў мясцовасці маюцца чалавечыя ахвяры...

*З перадачы замежнага радыё*

16

Брысці за статкам
Лось далей не мог.
Дрыжэлі ногі, ацяжэла цела.
І ён прылёг на звільгатнелы мох
І статку ўслед глядзеў асалавела.

Павольна,
Не збаўляючы хады,
Знікалі ў хмызняках ласі маўкліва.

І толькі гадаванец малады
Зірнуў старому ў вочы палахліва.

Ці ж для таго
Ён доўга ў важаках
Збіваў юрліўцам капыты і рогі,
Каб зараз апынуцца ў чужаках,
Каб зараз трапіць у палон знямогі?

Лось цяжка дыхаў
І зусім засмяг.
Як пара, пот дыміўся над спіною,
І сіла, што таілася ў рагах,
Цяпер была ўжо ношаю цяжкою.

Плылі ў вачах
Крывавыя кругі,
І сэрца трапяталася балюча.
Няўжо не ён, а нехта там другі
За зграяй воўчай носіцца над кручай?

А побач —
Кола цеснай чарады
Акальцавала цёлак-першагодак...
Ён ратаваў свой статак ад бяды,
Ад багнішчаў балотных і паводак.

Няўжо не ён,
Калі лясны пажар
Драпежнікам глытаў усё жывое,
Свой статак вывеў да глухіх імшар
І сцежку пратаптаў да вадапою?

Пакінулі...
Куды іх лёс нясе?
Ды ён і сам, важак непераможны,
Не хоча, каб жахнуліся усе:
— Які ён стаў цяпер бездапаможны!

Адно шкада:
Драбнеюць важакі.
Іх нораў — быццам у пястух-цялушак.
Ледзь снег на дол — яны праз сасцякі
Вядуць адразу статак да кармушак.

Кармушачнікі!
Не адрозніць ім
Алешыны балотнай ад асіны.
Сцяжыны продкаў зараслі зусім.
Дзе памяць іх, дзе нораў іх ласіны?

Іх сытая,
Марудная хада
Прыносіць статку ленасць і сляпоту.
Хто з іх праб'е узмахам капыта
На рэчцы пельку,
Каб папіць з-пад лёду?

Хто пах учуе
Хіжага ствала,
Што на ахвяру вызеўрыцца звыкла,
Каб чарада імгненна, як страла,
У хмызняках ад небяспекі знікла?

Лось задрамаў.
Слабеў ягоны дух.
Хоць лежачы
Для важака спаць — сорам.
І ўздрыгнуў.
Нібы ўчуў ягоны нюх
Людзей, што затаіліся за ўзгоркам.

На ногі ўскочыў ён,
Як малады,
І затрубіў магутна і трывожна,
Каб статак адвярнуць свой ад бяды.
І заваліўся ў мох,
Непераможны...

17

Прашу я прабачэння ў чытача,
Што часта адхіляюся ад тэмы.
На моўную хваробу ці не ўсе мы
Спісаць гатовы важныя праблемы,
Дзе варта найперш — секануць з пляча.

Тым больш вучоным трэба пэўны час,
Каб вылушчыць з падзей такое зерне,

Якое зноў спакой вайціпцам верне
І адкрыццём парадуе ўсіх нас.

Вы скажаце:
— Што сталася з гуркамі?
Адвозілі іх з град грузавікамі.
Аднак яны усё раслі, раслі...
І з кожным днём смачнейшыя былі.
Палессе імі заваліць бы мог
Калгас, які, на жаль, не меў дарог.

Бетонкай хуткаснай злучыўшы далі,
Міжрэчча абмінулі магістралі.
Дрыгвяніста ж пясчаныя грунтоўкі
Кляне шафёр і сёння, самы лоўкі.

Ну, а карысць якая ад парома,
Не мне казаць, усім і так вядома.
Міжрэчча лёс, што быў вякамі дзіўны,
Цяпер, як кажуць, стаў неперспектыўны.
І на табе — выключнае здарэнне:
Вартаўніка нябеснае знікненне.

Вось так зрабіў
Міжрэччу
Час імклівы
Касмічныя адразу перспектывы.

18

Пакуль гаворкай бавіліся мы,
Вучоныя паперы два тамы,
Здарэнне высвятляючы, спісалі,
Але пакуль пра тайну не сказалі.

Сяляне толькі бачылі здалёк,
Як пільна вывучаўся кожны крок
Яўхімаў з будана да жоўтай плямы,
Дзе апускаўся апарат той самы.

Аналіз бралі грунту. І гуркоў.
Дарэчы, самі елі іх ахвотна,
Падобныя здалёку на жучкоў,
Якім, відаць, у градах несамотна.

Усіх цікаўных адціскалі ўбок
Раённае міліцыі нарады,
Вучоны той, што быў, як шарачок,
Не пакідаў і ноччу нават грады.
Усеўшыся пад вечар на капу,
Глядзеў на зоры ў нейкую трубу.

...Аднак палескае здарэнне
Вучоным несла засмучэнне.
Знайшлі адбітак, праўда, ботаў.
Цераз нацiну ўсю — прасвет.
Ды брыгадзір, хоць неахвотна,
Прызнаў, што ён пакінуў след.
Пасля хваліўся без прынукі,
Што ён аб'ектам стаў навукі.

19

І вось нарэшце:
— Будзе сход!
Далоў усе сакрэты!
Падаўся подбегам народ
Ізноў да сельсавета.

Аб'явы, праўда, не было,
Ды гаварылі людзі,
Што зачакалася сяло
І сход, напэўна, будзе.

Узнікла зноў жа:
— Што рабіць?
Кароль, чаму замоўк ты?
А з град задыханы бяжыць
Навукі сын узмоклы.

Адхекаўшыся, ён сказаў,
Што гэтае здарэнне
Між планетарных рэдкіх з'яў,
Напэўна, выключэнне.

Яшчэ праводзіць рана сход,
Але, паколькі сам народ
Збіраецца стыхійна,—
Правесці сход павінны.

Хаця, пакуль што ні на грам
Не маем звестак новых,—
Больш аптымізму трэба нам
Перад людзьмі ў прамовах...

## 20

Чытач,
Цікаўнасць напатоль,
Слова першы ўзяў Кароль:

— Сябры!
Яўхімавіч Яўхім,
Вядомы добра нам усім,
У панядзелак акурат
Знік нечакана з нашых град.

Відаць, і сам ён не хацеў,
Аднак у космас паляцеў
На невядомым апараце...
Пра гэта ў кожнай знаюць хаце.

І перад вамі, землякамі,
Мне дужа цяжка гаварыць,
Бо вунь Яўхіміха стаіць
З двума малодшымі сынамі.

Шкада Яўхіма нам...
Шкада...
Быў чалавек ён працавіты.
І вось, як бачыце, бяда:
І ні жывы ён, ні забіты.

Здарэнне гэтае кальнула
Пад сэрцам нам, нібы асцё,
Скажу вам больш:
Перавярнула
Нам уяўленне пра жыццё.

Давайце ж возьмем сябе ў рукі.
Што да чаго — пакажа час.
Яны ж, прадстаўнікі навукі,
Хлеб недарма ядзяць у нас.

Якую б ні адмераў меру
Яўхіму зорны той палон,
Як старшыня яму я веру:
І там сумленны будзе ён.

Я веру: нават у бядзе
Яўхім калгас не падвядзе.

21

— Усё, што здарылася тут,
Назвалі мы:
«Вайцінскі цуд»,—
Сказаў узнёсла і натхнёна
Крыху разгублены вучоны,
— З'ява сапраўды ўнікальная.
Навука ўстрывожана нездарма.
Сітуацыя экстрэмальная:
Быў чалавек — і няма.

Згадзіцеся: розум наш чалавечы
Сутыкнуўся ў вашым Міжрэччы
Ва ўсёй яго творчай рознабаковасці
Перад бар'ерам невядомасці.

Аднак мы не трацім надзеі і веры.
Навука, як добра вядома цяпер,
Новыя ўзяўшы пазнання бар'еры,
Часам сама вырастае ў бар'ер.

І ўсё, што —
Як утаптаць —
Не знае
У свой тэарэтычны мех,
Яна — забабонамі аб'яўляе
Ці кажа, што гэта — курам на смех.

Таму, каб асвойваць нам новыя сферы,
Трэба ламаць і навукі бар'еры!

ГаворацЬ многа народы і нацыі
Пра незямныя цывілізацыі.

Дзе тут міфы і дзе мана,
Нам разабрацца трэба,
Ды вунь ваш гуркоўнік, нібы сцяна,
Вастразуба цэліцца ў неба...
Для развіцця цывілізацыі
Патрэбна — і ў гэта веру я —
Адаптацыя ці аптымізацыя
Пэўных якасцей матэрыі.

Мы ў сусвеце, відаць, не адны.
Недзе — браты па розуму.
Няўжо да нас завіталі яны?
Ёсць тут глеба для роздуму.

І, як сказаў ужо старшыня,
Мы, навукоўцы, не ўсё адкрылі.
І з навуковага «працадня»
Голад пазнання не наталілі.

Што да Яўхіма, які яго лёс —
Гэта пакуль яшчэ тайна нябёс.

Навука даследуе вышыню,
Зорных сістэм распады.
Будзем жа верыць у дабрыню
Тых, хто наведаў грады.

У Акадэміі камітэт
Стварылі мы спецыяльны,
Які праецыруе на сусвет
Гэта здарэнне глабальна.

Пытанне пастаўлена і ў ААН.
Убок адышлі ўсе тэмы.
Ніколі яшчэ не было ў зямлян
Такой агульнай праблемы.

Прынята рашэнне ўсе войны спыніць
На міжнароднай арэне,
Пакуль не удасца ўдакладніць,
Што значыць гэта здарэнне.

Так, чалавецтва не траціць надзей
Жывым Яўхіма убачыць.

Усіх нас хвалюе:
— Што ж будзе далей?
І што для нас гэта значыць?

22

— Яўхім — член маёй брыгады,
Хоць быць на пенсіі мог,
Сем год, як сцярог ён грады,
А вось сябе не ўбярог.

Голас у брыгадзіра
Сакоўны быў ад гуркоў:
— Нам трэба здарэнне шырай
Разгледзець з усіх бакоў.

Чаму так ахвотна грады
Ішоў вартаваць Яўхім?
Крыху ён быў дзіўнаваты,
Гэта вядома ўсім.

Два тыдні назад я ноччу
Дай, думаю, пагляджу...
Расказваць далей не хочу,
А сёння ўсё ж раскажу.

Прыйшоў...
І вачам не веру,
Праўду вам гавару,
Глядзіць Яўхім на Венеру,
Рукі ўзняўшы ўгару.

Чыесьці цяляты ў тумане
На ўзмежку траву скубуць...
Кажа:
— Ціха, Іване,
Чуеш, як зоры пяюць?

Якія, крычу, табе зоры!
Цяляты вунь у разоры!

Цялят адгані, крычу я,
Гуркоўнік жывёла мне!

А ён нібыта не чуе
І не бачыць мяне.

І раптам нейкая сіла
Там, на ўскраі сяла,
Мяне на дол падкасіла,
Яўхіма ўгору ўзняла.

З дрогкім глядзеў я жахам,
Губляючы розум свой,
Як плыў ён вялізным птахам
Над градамі і ракой.

Зоры гулі, як восы,
У вышыні над ім,
Расплюшчыў я вочы — босы
Ля будана Яўхім.

А на ўзмежку ля град
Няма ніякіх цялят.

«Што, і табе не спіцца?
Глядзі, як хораша тут!
Я не магу надзівіцца,—
Кажа,— на гэты цуд...»

За Сож у сцішаных далях
З-пад зорнага з-пад крыла
Вёска плыла на хвалях
Месячнага святла.

Кастрамі гарэлі лозы.
Чумацкі дыміўся шлях.
І раптам блікнулі слёзы
У сябра майго на вачах.

«Зорныя,— кажа,— ліўні,
Што душу ачышчаюць,
Бываюць толькі ў жніўні,
Толькі ў жніўні бываюць.

Зоркаю-агнявіцай,
Яна вунь палае якраз,—
Хочацца растварыцца
Чамусьці мне ў гэты час.

Не проста — у невядомасць,
Як галавешка ў траву,
А так, каб была свядомасць,
Каб адчуваў, што жыву.

Пасля папікнуць з дакорам
Самога сябе карціць.
Нават прызнацца сорам,
Як хочацца жыць і жыць.

Расстацца розум не хоча
З тым, што гэтак люблю.
Чамусьці ў зорныя ночы
Цяпер ніколі не сплю...»

Яўхім гаварыў.
Я слухаў.
Ён адплываў ад мяне,
Біла мяне калатуха,
Як цэп малаціў па спіне.

Азяб і ўзмок я дарэшты.
Рабіўся ён нейкім чужым.
Хутка, кажу, памрэш ты,
Хутка памрэш, Яўхім!

Хай зара-агнявіца
Сама па сабе цячэ!..
Нельга з прыродай зліцца,
Пакуль жывыя яшчэ.

Таму ж, хто зліўся з прыродай,
Заўсёды, не знаю чаму,
Смерць таму ўзнагародай
І карай нябеснай яму.

Хто многа на свеце знае —
Вяшчуе сабе самотнасць.
Зямля таго забірае
У вечную незваротнасць...

А ён стаяў і смяяўся,
Мяне па плячы — рукой.
І нейкі німб калыхаўся
Над светлай яго галавой.

Цяпер мы, як пагарэльцы.
Дзе нам Яўхіма шукаць?
Але з сабою прышэльцы
Маглі б і лепшага ўзяць.

23

— Бы ў ступе,
Чуеш ты, Іван,
Таўчэш і праўду, і спадман.
Скажу і я шаноўнай грамадзе,
Сусед Яўхімаў, інвалід-калека,
За ўсё жыццё не бачыў я нідзе
Сумленней ад Яўхіма чалавека.

Мы змалку разам пасвілі кароў,
Лавілі рыбу, сеялі, касілі.
Мы змалку разам мошак, камароў
Каля начлежных вогнішчаў кармілі.

Узагрудках не млелі на мяжы,
Перажылі і голад, і напасці.
Такога сябра мець, што ні кажы,
Вялікае на свеце гэта шчасце.

Дзе ж ты цяпер, Яўхім наш дарагі?
Аберагчы цябе мы не паспелі...
Ён гаварыў, і чорныя кругі
Павольна пад вачамі чырванелі.

24

Дзядзька Сцяпане!
Я вас люблю.
Негаваркое ваша сумленне.
Дазвольце мне.
Я за вас зраблю
Трагічнае адступленне.

Вернемся з вамі ў тыя гады,
Што папярхнуліся сажай.
У тыя гады, паплывём мы куды
На чоўнах памяці нашай.

Год сорак трэці
Круціць вайна,
Нібы крывавыя жорны.
А на Палессі —
Паводка. Яна
Дымам укрылася чорным.

На выспах дубы гудуць, як званы.
Зрываючы гаці, калоды,
Коціцца вогненна-вадзяны
Вал праз лясы і балоты.

Дрэвы як свечкі гараць.
Карані
Трашчаць пад лютым напорам.
Палаюць вёскі, нібы караблі,
У гэтым вогненным моры.

На катэрах
З сяла да сяла,
Нацэліўшы агнямёты,
Флатылія карнікаў-катаў плыла
Тут праз лясы і балоты.

Ваду з агнём змяшалі яны,
Каб край гэты мог скарыцца.
Бо ўлетку праз багну і плывуны
Сюды ім ужо не прабіцца.

*

Ад вёскі да вёскі,
Ганцы партызан,
У чоўне ляцелі
Яўхім і Сцяпан.
І людзі ў адчаі
Праз вогненны жах
Да выспаў вайцінскіх
Плылі на чаўнах,
На лодках-дубах,
На платах і варотах.
Вада іх глытала
Ў вірах-заваротах.

Міжрэчча гуло,
Галасіла, раўло,
Пад партызанскае
Мкнула крыло.
У пекле жахлівым
І птушка і звер
Шукалі ратунку
На выспах цяпер.
Як звар'яцелыя,
Нават ваўкі
Да выспаў у гурце
Плылі нацянькі.



— Мамачка,
А чаму гарaць хаты?
— Гэта паліць іх вораг праклятый.
— Мамачка,
А чаму гарыць вада?
— Гэта нас даганяе бяда.
— А чаму гараць лодкі?
— Мабыць, будзе наш век кароткі.
— Мамачка,
Глядзі, вунь гарыць карова!
— Маўчыце, дзеткі, ні слова.
— Мамачка, чуеш?
Мамачка, чу...
Прачынаюся.
Гэта я крычу.

Гэта я крычу
На ўвесь белы свет
Праз агонь, паводку і дым,
Гэта я крычу сувязным услед:
— Не кідай нас, дзядзька Яўхім!
І цяпер,
Калі здасца якому сычу,
Што мяне закляваў ён зусім,
Я ўсміхнуся і толькі нябёсам шапчу:
— Што сказаў бы ты, дзядзька Яўхім?



На свеце, мабыць, існуе закон,—
І колькі той вяровачцы ні віцца,—
Прыходзіць час, і справядлівы ён
Прысуд выносіць кожнаму злачынцу.

Ляцела сажа,
Нібы чорны снег,
Яшчэ гарэлі хаты, як бяроста,
А карнікі нагледзелі начлег:
Сярод балот
Глухі Ваўчыны востраў.

Ваўчыны востраў!
Там адны ваўкі
Заўсёды ратаваліся ў паводку.
Пра гэта ведалі палешукі,
Але не гнаў туды ніколі лодку
Спакон вякоў адважны паляўнічы.[1]

Такі ўжо склаўся на Палессі звычай.
Бо роўныя мы ўсе перад вадой,
Нібыта перад чорнаю бядой.



Не ведаю:
Злачынцам сняцца сны?
Яшчэ палілі вогнішчы яны,
Ды выбухі паветра скаланулі,
Як быццам востраў той перавярнулі.
І катэры, прыўзняўшыся з вады,
Згубілі ў небе вогненным сляды.

...Назад зноў у чоўне
Ляцелі праз дым
Да выспаў вайцінскіх
Сцяпан і Яўхім...

На свеце, мабыць, існуе закон,—
І колькі той вяровачцы ні віцца,—
Прыходзіць час, і справядлівы ён
Прысуд выносіць кожнаму злачынцу.

На востраве —
Фашысты і ваўкі,
Звяроў і тых пакрыўдзіў лёс такі.
Не ведаю, каго і хто там з'еў,
Ды з карнікаў ніводзін не ўцалеў...

*

Між дубоў адвечных і бяроз
Да чыноў Яўхім наш не дарос.
Што ў жыцці не меў ніколі страху,
Вам медаль пацвердзіць «За адвагу».

Між дубоў адвечных і бяроз
Свой заўжды цягнуў сумленна воз.
Колькі ён палеткаў узараў,
Колькі ён скасіў за век свой траў!

Колькі розных напісаў лістоў,
Бокам каб закон не абышоў
Інвалідаў, партызан, сірот,—
У Міжрэччы ведае народ.
Ведае, як некалі ў бядзе
Нават з пелькі ратаваў людзей.

Колькі пахадзіў у райсабес,
Каб на зруб салдатцы «выбіць» лес.
І не раз свой чалавечы боль
У народны ён насіў кантроль.

Без узнагарод і без чыноў
З жонкай вырасціў ён чатырох сыноў.
І не раз услед балбатуны
Гаварылі, чулі каб сыны:
— І чаго яму за ўсіх свярбіць?
Бацька ваш не навучыўся жыць...

Так ён «ненавучаны» і жыў.
Так яго жыццёвы склаўся лёс,
Аж пакуль ад нас яго не скрыў
Таямнічы далягляд нябёс.

25

Каб скончыцца сходцы нарэшце гэтай,
Слова ўзяў старшыня сельсавета:

— Таварышы!
Цяжка ўсім нам, вядома,
Не ведаю нават, ці стане лягчэй.
Я ўчора вярнуўся з райвыканкома.
Што ж я хацеў сказаць яшчэ?

Паколькі Міжрэччам цікавіцца свет,
А ў нас не ўсё добра яшчэ, не сакрэт,
Адпушчаны ўжо дадатковыя сродкі,
Каб дарогу пракласці за час кароткі,
Добраўпарадкаваць клуб і фермы.
Многае мусім зрабіць цяпер мы,
Бо знікненнем сваім Яўхім
Наша жыццё перайначыў ва ўсім.
Мабыць, цуркам пацякуць турысты,
Даследчыкі розныя, журналісты.
Абы-як — не прымеш гасцей.
Трэба падумаць і пра музей.
Праўда, звесткі аб гісторыі краю
Наша школа даўно збірае.
Але ці ж гэтага дастаткова?
Дзе навуковая ў працы аснова?
Каб расказаць, як жылі нашы продкі,
Зноў жа патрэбны нейкія сродкі.
Збудуем гасцініцу, рэстаран...
Ты мяне чуеш, Сцяпан?

Ты ў партызанах быў сувязным,
Хадзіў на заданні з Яўхімам нязрэдку.
Будзем лічыць, што і зараз Яўхім
У космас пайшоў у разведку...

26

Радыёфізікі Акадэміі навук зарэгістравалі ўспышку новай невядомай зоркі ў сузор'і Лебедзя, назваўшы яе зоркай Яўхіма, бо менавіта ў тым кірунку знік апарат касмічных прышэльцаў з чалавекам на борце. Сігнал, пасланы з гэтай зоркі на Зямлю, паставіў перад чалавецтвам незвычайную праблему,— абапіраючыся на даследаванні цэлага комплексу навук, ад астрафізікі і біялогіі да лінгвістыкі і філасофіі,— зрабіць расшыфроўку гэтага сігналу...

*З паведамлення Тэлеграфнага агенцтва*

27

Кіраўнікі заходніх дзяржаў выступаюць супраць кантактаў з незямным розумам. Яны выказваюць перасцярогу, што, прымаючы інфармацыю ад цывілізацыі, якая знаходзіцца на больш высокай ступені развіцця, мы можам апынуцца ва ўладзе так званай «касмічнай веры», здольнай разбурыць нашы звыклыя ўяўленні аб навакольным свеце, напоўніць наша жыццё роспаччу і хаосам...

*З перадачы замежнага радыё*

28

А што далей?
Ці вернецца Яўхім?
Паверце, сам я гэтага не знаю.
Але з палёту ўсё ж яго чакаю,
Хай вернецца здаровым і жывым!

Спяваюць зоры голасна і звонка.
Да раніцы не спіцца землякам.
Няхай праз Клімука ці Каваленка
Ён вестку перадасць з нябёсаў нам.

Але маўчыць нябёс крутая сфера.
Заціхлі песні, музыка ў сяле.

Каторы дзень Яўхімава вячэра
У роднай хаце стыне на стале.

Зацiхлi самалёты i гарматы.
Памiж сабою раяцца ўрады.

Зацiхлi тэрарысты, фалангiсты,
Дыктатары, лазутчыкi, путчысты...

Пытанне аб'яднала ўсiх людзей:
— А што далей?

На гэтым i канец маёй паэмы.
Яшчэ вярнуся я да гэтай тэмы,
Калi дадому вернецца Яўхiм,
А зараз пачакаем, памаўчым.